



# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень
27 канал(аў) ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

13 кастрычніка 2017 года №41 (1172)


# Віншуем жанчын з Днём маці!


**Молодечномебель. И самый искушённый покупатель оценит уют, который мы создаём** старонка 3

**Маладзечанец, у якога адабралі лецішча: Нас пасялілі на бомбе, а цяпер забіваюць** старонка 21




# Дома размаўляю з мужам-вайскоўцам: "зубкі пачысціў?", "ручкі памыў?"

Лепшая выхавальніца рэспублікі – пра перамогу, сям'ю і працу.


старонка 2


Фота Наталлі ТУР

НАВІНЫ

## Даюць імёны новым вуліцам

АСТРАВЕЦ

Закончыўся тэрмін грамадскага абмеркавання прапановы па найменні новых вуліц у Астраўцы.

Чатыром праектуемым вуліцам тапанімічная камісія на чале з намеснікам старшыні райвыканкама **Віктарам Свілам** прапанавала наступныя назвы: Цэнтральная, Энергетыкаў, Дубраўная і 3 Ліпеня.

Падчас абмеркавання прапаноў і заўваг ад жыхароў у раённы Савет дэпутатаў не паступала, паведамляе "Астравецкая праўда".

## Зладзілі восеньскі кірмаш

АШМЯНЫ

Традыцыйны кірмаш у Ашмянах прайшоў 7 кастрычніка. Набыць гародніну, збожжа ці жывёл насць прапаноўвалі сельгасарганізацыі, фермеры і гаспадары, у якіх апынуліся лішкі.

Бульбу прадавалі па 30 капеек за кілаграм, яблыкі за рубель. Шмат куплялі капусты, морквы, буракоў, журавін і перцу. Некаторых цікавілі саджанцы ці трусікі.

Вырабы народных майстроў і разнастайныя забавы зрабілі з кірмашу сапраўднае свята.

Наступны кірмаш прызначаны на 22 лістапада, піша "Ашмянскі веснік".

## Прайшлі спаборніцтвы сярод кінолагаў

СМАРГОНЬ

10 кастрычніка адбыўся заключны этап сярод кінолагаў на лепшага інструктара вышуковай сабакі органаў пагранічнай службы.

Службовыя сабакі паказвалі майстэрства ў розных накірунках: пошук чалавека па слядах, вобшук мясцовасці, пошук наркотыкаў, выбуховак і зброі, агульны курс дрэсіроўкі.

Спаборніцтвы праходзілі на базе Смаргонскай пагранічнай групы, піша газета "Светлы шлях".

## Якія дарогі падлягаюць першачарговаму рамонту

ВАЛОЖЫН

Спіс размясціла раённая газета "Працоўная слава".

Першачарговы рамонт патрабуецца на наступных дарогах: Дворышча-Забрэззе-Вішнева, Пяршаі-Мішаны-Паднеўічы, Караблі-Гірэвічы-Ракаў і пад'езд да вёскі Камень. Канкрэтныя ўчасткі па кіламетрах можна ўбачыць на сайце раённай газеты.

Паляпшэнне гравійнага пакрыцця неабходнае ад вёскі Подбераззь да Вішнева, а таксама пад'езд да вёскі Маршалкі.

Агульны кіламетраж дарог пад першачарговы рамонт – 42 752 кіламетры.

## Пытанні па льготах цяпер вырашае іншая ўстанова

МЯДЗЕЛ

Пра гэта выданню "Нарачанская зара" паведамілі ва ўпраўленні па працы, занятасці і сацыяльнай абароне райвыканкама.

Цяпер трэба звяртацца да Мядзельскага тэрытарыяльнага цэнтра сацабароны насельніцтва па наступных пытаннях: афармленне ў дамы-інтэрнаты, забеспячэнне тэхсродкамі сацыяльнай рэабілітацыі, накіраванне інвалідаў па зроку ў аддзяленне рэабілітацыі на базе санаторыя "Пад'ельнікі", прадстаўленне да ордэна Маці. У гэтай жа ўстанове можна атрымаць тлумачэнне аб ільготах для інвалідаў ці асобных катэгорый грамадзян.

## Вілейскія лесарубы выступалі ў Польшчы

ВІЛЕЙКА

Дэлегацыя Вілейскага лясгаса на чале з дырэктарам установы ўдзельнічала ў 5-м лясным кірмашы "Лес і мы". Свята адбылося 7-8 кастрычніка ў Беластоку.

Ляснік Старынкаўскага лясніцтва **Валеры Дуровіч** і вальшчык лесу Куранецкага лясніцтва **Мікалай Ярошык** прадставілі каманду вальшчыкаў лесу Міністэрства лясной гаспадаркі ў выставачных выступленнях лесарубаў.

Таксама прайшлі сустрэчы з польскімі калегамі па абмене досведам.

## Правядуць "прамую лінію" з намеснікам старшыні Вілейскага райвыканкама

14 кастрычніка зладзяць "прамую лінію" з намеснікам старшыні райвыканкама **Генадзем Касцевічам**.

Са сваімі пытаннямі жыхары горада і раёна могуць звярнуцца ад 9:00 да 12:00 па тэлефоне **8 (0771) 55241**, паведамілі ў райвыканкаме.

Аддзел інфармацыі.

ТЭМА НУМАРА



Таццяна Апановіч з хлопчыкамі будуюць самалёт. Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

# Заняткі для конкурсу выпрабоўвала на сыне

## Лепшая выхавальніца рэспублікі распавяла пра перамогу, працу і сям'ю

МАЛАДЗЕЧНА

**Выхавальніца дзіцячага садка №24 прынесла паказаць сваім выхаванцам птушачку.**

А птушачка не простая, а хрустальны жураўель.

Яго **Таццяна Апановіч** атрымала за перамогу ў суперфінале рэспубліканскага конкурсу "Настаўнік года Беларусі" ў намінацыі "Выхавальнік дашкольнай адукацыі".

Але для яе конкурс – не паказчык прафесійнага майстэрства, ды і слова "лепшая" крыху бянтэжыць.

– Калі лепшая, то няма куды развівацца далей, – лічыць Таццяна Лявонаўна. – Значыць, гэта тупік.

### Давала начныя заняткі

На думку выхавальніцы, члены журы не маглі быць аб'ектыўнымі да канца. Калі б яны правялі разам з Таццянай некалькі дзён у яе групе, напэўна, толькі б тады склалася аб'ектыўная карціна.

Калі ўзяць усе этапы – ад унутранага, у садку, да рэспубліканскага, – то можна сказаць, што конкурс доўжыўся год. Першыя конкурсныя заняткі ў сваім садку Таццяна дала летась у кастрычніку. Пасля паступова былі перамогі на раёне, вобласці і, нарэшце, на рэспубліцы.

На рэспубліканскім конкурсе Таццяна давала заняткі-"загатоўкі", майстар-клас для студэнтаў педуніверсітэта і… начныя заняткі.

Але начныя заняткі, гэта не заняткі ноччу. Называліся яны так вось чаму. Днём у тры гадзіны настаўнікі даведваліся тэму заняткаў і ўзрост дзяцей.

У пяць-шэсць гадзін вечара ехалі ў садок, дзе павінны будуць заўтра раніцай праводзіць заняткі. Там гутарылі з выхавальнікам і аглядалі групу. А потым "з нуля" пачыналі рыхтавацца да заняткаў.

А на падрыхтоўку была цэлая ноч.

– Нягледзячы на тое, што ноччу не заплюшчыла вачэй, ад заняткаў атрымала вялікае задавальненне, – дзеліцца выхавальніца. – Напэўна, таму, што мне трапіліся такія разумныя і добрыя дзеці. Хоць бачыла я іх першы раз.

### Студэнты – гэта не дашкольнікі

Самым складаным у конкурсе для педагога, які 16 год працуе з дашкольнікамі, было правесці майстар-клас для студэнтаў педуніверсітэта ў Мінску.

– З маленькімі дзецьмі прасцей, яны адразу вераць табе на слова, – кажа Таццяна.

Студэнты – гэта дарослыя людзі. Яны маюць сваю пазіцыю. Не заўсёды прымаюць тое, што скажа педагог. З будучымі калегамі Таццяна дзялілася досведам таго, як прышчапіць дашкольніку любоў да рабочых прафесій.

Па назіраннях маёй субяседніцы, першапачаткова ў вачах студэнтаў чыталася нешта накшталт: "Што ты тут лухту нейкую нясеш".

Аднак пасля яны актыўна ўключыліся ў заняткі, стваралі навучальныя дапаможнікі – газеты, кніжкі, калажы. Падводзячы вынікі, адназначылі, што майстар-клас ім спадабаўся і атрыманыя веды яны абавязкова выкарыстаюць у сваёй будучай працы.

А Таццяна адчула, што можа працаваць не толькі з дашкольнікамі, але і з дарослымі людзьмі.

### Беларускамоўныя заняткі не выклікаюць панікі

А першапачаткова, яшчэ падчас вучобы ва ўніверсітэце, Таццяна якраз і планавала, што будзе працаваць з больш дарослымі людзьмі, а не з дашкольнікамі. Па спецыяльнасці жанчына – настаўніца беларускай мовы і літаратуры.

Але жыццё склалася так, што адразу пасля заканчэння ўніверсітэта Таццяна працуе выхавальніцай і ўпэўненая, што з садка ў школу не пойдзе.

Філалагічная адукацыя ў садку не стала лішняй. Часта трэба дэкламаваць вершы. Хоць Таццяна лічыць, што атрымліваецца гэта не столькі дзякуючы адукацыі, колькі прыродным дадзеным і досведу. За час працы ў садку перад бацькамі і дзецьмі ў стольких казачных персанажаў прыйшлося пераўвасобіцца.

А яшчэ калі трэба праводзіць беларускамоўныя заняткі, у Таццяны гэта абсалютна не выклікае панікі, як у некаторых калег.

### А дома выхоўваю сына і мужа

Да таго, што мама на працягу года ўдзельнічае ў розных конкурсах, муж і сын прывыклі.

Падчас рэспубліканскага этапу Таццяна вымушаная была з'ехаць у Мінск на два тыдні.

– За гэты час ні муж, ні сын не хвалявалі і не турбавалі мяне, – прыгадвае выхавальніца. – Не тэлефанавалі, каб спытаць, дзе насоўка, а дзе шкарпэткі. А я ведала, што тата прыгатуе ежу для сына, а сын – для таты.

12-гадовы сын Таццяны, **Вася**, вучыцца ў школе і займаецца хакеем. У мамінай перамозе ёсць і яго заслуга.

– Некаторыя заняткі і майстар-клас для студэнтаў апрабоўвала на сыне, – распавядае Таццяна. – Ён уважліва слухаў, рабіў разумны выгляд, пагаджаўся са мной.

Сям'я верыла ў маму і жонку больш, чым яна сама. Калі Таццяна перамагла на вобласці, сын жартам сказаў, што мама пераможа і на рэспубліцы.

А вось Таццяна да апошняга сумнявалася ў магчымасці сваёй перамогі.

– Напэўна, я не да канца ацаніла ўласныя магчымасці, – дзеліцца выхавальніца. – Была нейкая памылковая думка, што настаўнікі на некалькі прыступак вышэй за выхавальнікаў. Конкурс пераканаў мяне, што выхавальнік можа быць на адным узроўні з настаўнікам і называцца гордым словам "педагог".

Прафесія выхавальніцы адбіваецца на сямейным жыцці.

– З мужам і сынам размаўляю, як у дзіцячым садку: "ручкі памыў?", "зубкі пачысціў?", – смяецца Таццяна.

Часцей сямейнікі падпарадкоўваюцца мамевыхавальніцы, аднак могуць і супраціўляцца. Не так і лёгка выхаваць мужа, калі ён вайсковец.

Аксана ЯРАШОНАК.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 5.10 | 12.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9650 | **1,9711** |
| Еўра | 2,3111 | **2,3308** |
| Злоты, 10 | 5,3805 | **5,4349** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,4010 | **3,4042** |
| Грыўня, 100 | 7,3321 | **7,4332** |
| Курсы ў "Банку БелВЭБ" | 4.10 | 11.10 |
| Еўра | 2.2900/2.3150 | **2.3100/2.3300** |
| Долар ЗША | 1.9550/1.9720 | **1.9620/1.9770** |

## ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 4.10 | 11.10 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | **16,85** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,68 | **6,98** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,18 | **3,18** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **9,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,05 | **4,10** |
| Селядзец, 1 кг | 3,95 | **3,85** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,70 | **1,70** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,80** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,60 | **1,60** |
| Алей "Залатая семачка" 1 л | 2,80 | **2,80** |
| Маянэз, 200 г | 0,95 | **0,95** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Часнок, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Капуста, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Кабачкі, 1 кг | 1,50 | **1,00** |
| Гарбуз, 1 кг | 1,00 | **0,60** |
| Лімоны, 1 кг | 3,50 | **4,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Дыня, 1 кг | 1,80 | **2,00** |
| Буракі, 1 кг | 0,50 | **0,60** |
| Памідоры, 1 кг | 1,45 | **1,75** |
| Агуркі, 1 кг | 1,99 | **2,65** |
| Перац, 1 кг | 1,79 | **2,50** |
| Кавун, 1 кг | 0,85 | **1,00** |
| Вінаград, 1 кг | 2,99 | **2,95** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Ківі, 1 кг | 2,95 | **4,50** |
| Хурма, 1 кг | - | **2,95** |
| Гранат, 1 кг | 7,50 | **4,45** |
| Капуста пекінская, 1 кг | - | **1,70** |
| Бананы, 1 кг | 1,89 | **1,79** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,45 | **4,60** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,49 | **1,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,75 | **1,65** |
| Грушы, 1 кг | 1,95 | **2,95** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,40 | **0,40** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50-3,00** |
| Мёд, 0,5 л | 7,00-8,00 | **7,00-8,00** |

## У забойстве студэнткі падазраюць ашмянца

**Цела дзяўчыны знайшлі на вуліцы Васняцова ў Мінску, за кіламетр ад Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта.**

"Па дадзеных следства, 5 кастрычніка каля 22:00 кіроўца таксі, праязджаючы міма, заўважыў, як па вуліцы ідзе мужчына і цягне дзяўчыну. Калі таксіст спыніўся, мужчына збег, пакінуўшы цела на зямлі. Відавочца ўбачыў, што дзяўчына не падае прыкмет жыцця і паведаміў пра здарэнне ў праваахоўныя органы і "хуткую дапамогу", – паведамляе **Юлія Ганчарова**, афіцыйны прадстаўнік СК.

Неўзабаве затрымалі падазраванага. Гэта 21-гадовы беспрацоўны ўраджэнец Ашмянскага раёна.

У самім універсітэце дакладнай інфармацыі няма. Студэнты і выкладчыкі кажуць, што чулі пра здарэнне, але не ведаюць ані дзе дакладна знайшлі цела, ані хто яго знайшоў.

Пакуль што яны дзеляцца чуткамі.

"Яе страшэнна збілі, увесь твар быў збіты", – кажуць адны. "Яе абрабавалі, нічога ў кішэнях не было, ані грошай, ані дакументаў", – кажуць іншыя. Ля самога канала гуляюць некалькі дзяўчат. Кажуць, спецыяльна прыйшлі паглядзець на канал, калі пачулі пра забойства.

Акрамя таго, у карпусах вісяць аб'явы з заклікамі быць асцярожнымі.

Вядома, што забітую дзяўчыну звалі **Алеся Буцько**. Ёй быў 21 год. Алеся родам з Гомельскай вобласці, але апошнім часам жыла ў Мінску. Працавала ў адным з аддзяленняў "Беларусбанка" і вучылася на завочным у БДЭУ на ўлікова-эканамічным факультэце.

Пазней следству стала вядома, што падзеі адбыліся ў прыватным доме, размешчаным у праездзе Весніна ў сталіцы, на адлегласці каля 100 метраў ад месца выяўлення дзяўчыны.

Са слоў падазраванага, паміж ім і знаёмай паўстаў канфлікт на глебе асабістых узаемаадносін, падчас якога ён схапіў яе за шыю і некаторы час трымаў. Усвядоміўшы, што здзейсніў забойства, мужчына спрабаваў схаваць сляды злачынства і пазбавіцца ад цела.

Менавіта ў гэты працэс і ўмяшаўся таксіст.

Экспертамі праводзіцца даследаванні па справе, у тым ліку судова-медыцынская і комплексная псіхолага-псіхіятрычная экспертызы. Папярэдне ўстаноўлена, што смерць дзяўчыны наступіла ад асфіксіі ў выніку здушэння органаў шыі.

**Паводле "Нашай Нівы".**

## Пад Ашмянамі ледзь не разбіўся аўтобус, бо на трасе пакінулі дарожную тэхніку

**АШМЯНЫ**

Чытач "Нашай Нівы" паведаміў пра здарэнне на трасе Р52 (дарога ад АЭС да Ашмянаў), што адбылося ў суботу а палове дванаццатай ночы.

Турыстычная група вярталася з Вільні на аўтобусе, але магла і не даехаць: на неасветленым участку трасы стаяла машына для драбнення гравію.

– На дарозе стаяла 50-тонная машына для драбнення гравію без апазнавальных знакаў, – паведаміў чытач. – Добра што наш кіроўца – прафесіянал, і ён змог выратаваць увесь аўтобус ад усяго таго жудасця, што магло здарыцца. Камусьці на памяць засталіся толькі драпіны. Уразілі словы інспектара ДАІ, які сказаў кіроўцу: "Калі ты не бачыш – хадзі пешшу". Смяяліся ўсім аўтобусам, бо прадстаўнік ДАІ казаў гэта абсалютна сур'ёзна.

Як кажа пасажыр, тая рабочая машына стаіць на ўзбочыне, але недзе на метр выступае на трасу. Крук з транспартнай стужкай тырчыць над трасай. Яго і абмінаў кіроўца, рэзка ўзяўшы ўлева перад самым круком, абцёршы яго.

Пакуль не высветлена, якой службе належыць тая дзіўная машына.

У кампаніі-перавозчыку сітуацыю не каментуюць.

**Паводле "Нашай Нівы".**



# У РАУС Вілейкі сёлета прыйшло пяць маладых спецыялістаў

## Усе хлопцы – мясцовыя

**ВІЛЕЙКА**

**Напярэдадні прафесійных святаў, Дня заснавання службы крымінальнага вышуку і Дня ўтварэння службы нораваў, пяць маладых спецыялістаў сабраліся ў кабінеце Кацярыны Млечкі, намесніка начальніка РАУС Вілейкі па ідэалагічнай рабоце і кадрах, каб распавесці пра першыя месяцы службы ў міліцыі.**


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

**У першыя дні працы ў РАУС хлопцы адчулі пералом ад тэорыі да практыкі. Злева направа: Кацярына Млечка, начальнік аддзела крымінальнага вышуку Дзмітры Антановіч, маладыя спецыялісты Яўген Антановіч і Вадзім Бурак.**

### Любяць мясцовыя кадры

Усе хлопцы мясцовыя: трое з Вілейкі, двое – з Даўгінава. Стараемся забяспечваць сябе мясцовымі кадрамі, кажа Кацярына Аляксандраўна.

Оперупаўнаважаны **Яўген Антановіч** прафесію абіраў, гледзячы на бацьку. Той усё жыццё адпрацаваў у дэпартаменце аховы і адтуль пайшоў на пенсію. Бацькі былі задаволены выбарам сына: курсант акадэміі пяць гадоў будзе апрануты, накормлены і пад наглядам.

### Летам – мак, зімой – спайсы

Бацька віляйчаніна **Вадзіма Бурака** ў дэпартаменце аховы працуе і цяпер. Таму, жартуе хлопец, выбар прафесіі быў прадвызначаны з дзяцінства. Курсантам Вадзім праходзіў практыку ў аддзеле РАУС па наркакантролі, і тады, па яго словах, зразумеў, што хоча працаваць у такой службе. Жаданне хлопца здзейснілася.

– Няўжо ў такім невялікім спакойным гарадку, як Вілейка, вам хапае працы?– пытаюся ў маладога міліцыянера.

– Хапае, – адказвае той. – Летам – мак, зімой – спайсы. А вось прастытуцыі ў Вілейцы няма.

Па словах Вадзіма, з тых спраў, з якімі ўжо паспеў папрацаваць, найбольш запомнілася справа пра адносіны дарослага мужчыны з непаўналетняй.

Яшчэ Вадзім маніторыць сацыяльныя сеткі. Сочыць за тым, каб не распаўсюджвалі парнаграфію.

### У прэстыжным раёне сталіцы мелі бясплатнае жыллё

Са школы за працай міліцыянераў сярод знаёмых і сваякоў назіраў і **Эдуард Лужынскі**. Было цікава, чым займаюцца міліцыянеры, як яны працуюць.

**Аляксандр Лубнеўскі** і **Сяргей Лісоўскі** родам з Даўгінава. Тут яны вучыліся ў адным класе мясцовай школы, сядзелі за адной партай, сябравалі. Спярша працай у міліцыі зацікавіўся Сяргей. Неўпрыкмет, гледзячы на сябра, прафесіяй міліцыянера захапіўся і Саша.

Той час, калі былі курсантамі, хлопцы ўзгадваюць весела. Апрануты, абуты, накормлены тры разы на дзень. Пры ўсім гэтым, грашовае забеспячэнне курсанта амаль у два разы вышэйшае, чым стыпендыя ў студэнтаў цывільных ВНУ.

Падчас гутаркі з хлопцамі я даведалася, што самае складанае пры паступленні – гэта не цэнтралізаванае тэставанне. І нават не медыцынская камісія.

Аказалася, самы складаны момант – гэта псіхалагічныя тэсты. Напрыклад, у абітурыента могуць запытаць, чым жаба адрозніваецца ад самалёта. І за хвіліну або дзве трэба знайсці як мага больш адрозненняў.

– А дыскатэкі ў начных клубах? – не магу не спытаць у маладых хлопцаў.

Але ж якія там клубы, калі казарма зачыняецца ў дзесяць вечара. Хаця, па словах хлопцаў, нават не казарма, а даволі ўтульны сучасны інтэрнат.

Калі ў курсантаў добрыя паводзіны і вучоба, ім дазвалялі жыць за межамі інтэрната.

– Але мы самі не хацелі, – кажа Аляксандр Лубнеўскі. – Бо жылі ў раёне плошчы Перамогі. Гэта цэнтр горада. Уяўляеце, колькі б там наняць кватэру каштавала? А мы ў прэстыжным раёне мелі бясплатнае жыллё.

Вольнага часу хлопцам хапае. Ходзяць у спартыўную залу, басейн.

Здараюцца дзяжурствы на суткі ў складзе следча-аператыўнай групы. Аднак пасля гэтага бываюць выхадныя, або "адсыпныя", як тут кажуць.

### Пералом ад тэорыі да практыкі адчулі ў першыя дні

Ужо ў першыя дні на працы хлопцы адчулі пералом ад тэорыі да практыкі.

– Як бы ні стараліся нашы выкладчыкі набліціць практычныя заняткі да сапраўдных умоў працы ў міліцыі, гэта не вельмі атрымоўвалася, – кажа Аляксандр Лубнеўскі.

Калі падчас вучобы за нявывучаны прадмет ты проста можаш атрымаць "двойку", то на працы ад тваёй дрэннай падрыхтоўкі можа залежаць лёс людзей, дзеляцца хлопцы.

Па словах Кацярыны Млечкі і начальніка крымінальнай міліцыі **Аляксандра Лыско**, у РАУСе Вілейкі стараюцца, каб сюды на працу прыходзілі маладыя спецыялісты з Акадэміі МУС у Мінску або з інстытута МУС у Магілёве.

– Яны больш падрыхтаваныя да працы ў міліцыі, да нечаканых сітуацый, якія не часта, але здараюцца ў нашай прафесіі, – кажа Кацярына Аляксандраўна.

А ўвогуле, цяпер моладзі ў міліцыі лягчэй працаваць, чым раней, перакананы Аляксандр Лыско.

– Калі я, будучы маладым міліцыянерам, няправільна "настучу" нейкі дакумент на друкарскай машынцы, начальнік яго рваў, і я мусіў рабіць усё спачатку, – прыгадвае Аляксандр Мікалаевіч. – А ў маладых калег цяпер ёсць камп'ютары і амаль у кожнага службовы аўтамабіль.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Думаў, сустрэну выкладчыкаў, што завальваюць студэнтаў

## Вілейскі "стабальнік" распавёў пра першыя ўражанні ад студэнцкага жыцця

ВІЛЕЙКА

**Падчас сёлетняй уступнай кампаніі імя Ягора Белахвостава прагучала на ўсю Вілейшчыну. А як жа? Выпускнік гімназіі "Логас" на сто балаў здаў цэнтралізаванае тэставанне па хіміі.**



Ягор Белахвостаў: па доме асабліва не сумую, але вярнуцца на два дзянькі заўсёды прыемна. На фота: Ягор Белахвостаў у роднай Вілейцы.

Вынікам па біялогіі і рускай мове да сотні не хапіла зусім крыху: Ягор набраў 99 і 96 балаў адпаведна. Да таго ж сюды дадаліся 96 балаў са школьнага атэстата.

**Атрымалася, што вілейскі выпускнік амаль дагнаў па выніках тэставання лепшых сталічных гімназістаў.**

Як склалася жыццё гэтага разумніка з Вілейкі? Ці здзейснілася яго мара – паступленне на стаматалагічны факультэт? Пра першыя ўражанні ад студэнцтва Ягор распавёў нашай газеце.

### Фізіка, лаціна... Усё лёгка і цікава

– Вучуся ў медыцынскім універсітэце ў Мінску, на стаматалагічным факультэце, – пачынае Ягор.

Значыць, мара здзейснілася. Ягор вывучае шмат цікавых для яго дысцыплін: гісталогію, біялогію, фізіку, лацінскую мову, агульную стаматалогію.

Кажа, было вельмі прыемна, што ў першы студэнцкі панядзелак жаданую стаматалогію правялі першай парай.

Вывучаюць таксама замежную мову і прафесійную лексіку. Гэта, на думку Ягора, абавязкова спатрэбіцца ў працы.

Менш цікавяць сацыяльна-гуманітарныя дысцыпліны. Аднак асаблівых цяжкасцяў у вучобе Ягор пакуль не адчувае.

Адзінае, гісталогія – навука пра тканкі – даецца крыху цяжэй за астатнія з-за вялікага аб'ёму інфармацыі.

Кажа, лёгка і цікава вучыць лаціну. Ды і фізіка, да ўласнага здзіўлення, цікавіць таксама.

### Выкладчыкі і растлумачаць, і зразумеюць, і адпусцяць раней

Ужо ў першыя дні вучобы Ягор заўважыў асноўнае адрозненне універсітэцкай сістэмы ад школьнай.

– Ва ўніверсітэце мы самі рыхтуем тэму да заняткаў, – тлумачыць Ягор. – А на занятках ужо разбіраем пытанні, якія ў нас узніклі пры вывучэнні.

Па словах віляйчаніна, такая сістэма для многіх аднагрупнікаў незвыклая.

А Ягор добра знаёмы з ёй дзякуючы працы з рэпетытарамі.

– Ідучы ў гэту ВНУ, чакаў сустрэць "крыважэрных" выкладчыкаў, якія толькі і хочуць, што "заваліць" студэнта, – жартуе Ягор. – Але на самой справе мы маем добрых педагогаў, якія і растлумачаць, і зразумеюць, а часам яшчэ і з заняткаў адпусцяць раней.

Школьныя праграмы па хіміі і біялогіі, па назіраннях Ягора, пераклікаюцца з універсітэцкімі.

Маючы добрую падрыхтоўку па гэтых прадметах, а яшчэ па гісторыі, Ягор эканоміць час для вывучэння новых дысцыплін.

### Нават застаецца час на вячэрнюю прагулку

Працоўны дзень студэнта пачынаецца ад 6:30. Заняткі – ад васьмі раніцы і працягваюцца да трох-чатырох гадзін дня.

Раз у дзень, або паміж парамі, або пасля іх, студэнт харчуецца ў сталовай. У інтэрнаце пасля кароткага адпачынку Ягор зноў садзіцца за вучобу.

– Не скажу, што вучоба займае вельмі шмат часу. Здараецца, што ўвечары нават ёсць час прагуляцца, – дзеліцца Ягор.

Большасць у Ягоравай групе дзяўчат: 12 з 15 студэнтаў. Падобная сітуацыя і ў іншых групах.

Мінчан шэсць чалавек, астатнія прыезджыя. Замежных студэнтаў у групе Ягора няма, хоць ва ўніверсітэце іх можна сустрэць часта.

Па словах студэнта Ягора Белахвостава, усе аднагрупнікі старанныя. Але магу сказаць, што мой узровень ведаў адзін з самых высокіх, кажа мой суразмоўца.

– З усімі аднагрупнікамі ўжо пасябраваў, – распавядае Ягор. – А каб атрымаць поўнае задавальненне ад студэнцкага жыцця, вырашыў жыць у інтэрнаце.

У сталіцы жывуць бабуля і дзядуля Ягора. Яны заўсёды гатовыя дапамагчы ўнуку. Таму бытавыя пытанні часта вырашаюцца "на месцы".

Аднак дадому пакуль Ягор ездзіць кожныя выхадныя.

– Не магу сказаць, што вельмі сумую, – дзеліцца хлопец. – Але заўсёды прыемна вярнуцца дадому, хаця б на два дзянькі.

Першую стыпендыю Ягор пакуль не патраціў. Тое, што грошы пералічваюць на картку, спрыяе іх захаванню, лічыць Ягор.

А яшчэ адказнага і разумнага віляйчаніна абралі старастам групы.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

# Акцыя "Дзясятачка": мы ўжо пачалі дарыць падарункі

**Расказаць пра акцыю і запрасіць школьнікаў далучацца мы прыехалі ў маладзечанскую СШ №11 у панядзелак, 9 кастрычніка.**



Іван Жабцоў з маладзечанскай СШ №11 атрымаў падарунак за актыўнасць у леташняй акцыі "Дзясятачка".

Менавіта гэту школу абралі таму, што яе вучань **Іван Жабцоў** у мінулым годзе даслаў шмат бланкаў, але атрымаць падарунак так і не пашчасціла. Мы вырашылі выправіць несправядлівасць і ўзнагародзіць актыўнага хлопчыка.

Аднакласнікі Вані і вучні з паралельнага класа сабраліся на сустрэчу, каб паслухаць, як і для чаго можна паўдзельнічаць у акцыі. Сустрэчу арганізавала настаўніца рускай мовы і літаратуры **Ала Аляксееўна Ярмак**.

Вось чатыры простыя патрабаванні, каб стаць удзельнікам акцыі і атрымаць магчымасць выйграць прызы.

### Правілы "Дзясятачкі"

1). Удзельнічаць можа вучань любой са школ ці гімназій Маладзечанскага, Вілейскага, Смаргонскага, Мядзельскага, Валожынскага, Ашмянскага, Астравецкага раёнаў, якому на момант атрымання адзнакі споўнілася 12 гадоў.

2). Трэба зарабіць "9" ці "10" па любым прадмеце ад 1 верасня 2017 года да 16 мая 2018.

3). Запоўніць бланк удзельніка. Прымаюцца толькі бланкі, выразаныя з газеты. У адным бланку можа стаяць толькі адна адзнака. Калі вы хочаце даслаць на конкурс пяць адзнак, вам неабходна пяць бланкаў, кожны з якіх будзе выразаны з газеты.

4). Дасылайце бланкі па пошце ці прыносьце ў рэдакцыю. На канверце зрабіце пазнаку "10". Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518 (ГЦ "Тройка", 5-ы паверх).

### Прызы

Калі вы выканалі ўсе чатыры пункты, то сталі ўдзельнікам акцыі. А значыць, становіцеся адным з прэтэндэнтаў на падарункі для пераможцаў.

Той, хто дашле найбольшую колькасць бланкаў, атрымае ў падарунак планшэт. Самы актыўны клас, вучні якога даслалі максімальную колькасць бланкаў, выйграюць паход у піцэрыю для ўсяго класа.

Таксама прадугледжаныя падарункі для лідараў па выніках чвэрці.

На сустрэчы з шасціклaснікамі галоўны рэдактар **Аляксандр Манцэвіч** і загадчыца аддзела інфармацыі **Зоя Хруцкая** правялі віктарыну з невялікімі памятнымі падарункамі для тых, хто правільна адказваў на пытанні. А Ваня атрымаў фірменную сумку для ноўтбука.

Калі вы хацелі б, каб прадстаўнікі рэдакцыі прыехалі і ў вашу школу распавесці пра акцыю, калі ласка, запрашайце праз пошту regionnews@rh.by.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by.

Аддзел інфармацыі.

### Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№41)

1. Імя, прозвішча________________
2. Дата нараджэння ________________
3. Клас
Школа________________
4. Населены пункт________________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака ________________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")________________
8. Дата атрымання адзнакі ________________
9. Імя, імя па бацьку ________________
10. Прозвішча настаўніка ________________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам________________
12. Подпіс настаўніка________________




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

## ВІНШАВАНКА

**Веры Сяргееўне СІЎРУКОВАЙ з Маладзечна!**



*90 лет всего тебе –*
*Женщин таких не сыскать*
*на земле.*
*Уважаемая, почитаемая,*
*Великолепный человек.*
*Всеми нами обожаемая,*
*Будь с нами, просим тебя,*
*навек*!

**Дочкі Ірына і Ларыса, унукі, праўнукі.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-2104, 1999 г.в., 1,6 бензін, 600 руб. Т. Вэлком (8-029) 3833307.*
- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*
- Мерсэдэс МВ 100 па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- Опель-Астра Ф па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- Пежо-205, 605, дызель, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- Рэно-19, дызель, па запчастках. Т. (8-033) 3500310.*
- ФВ-Гольф 3, 1994 г.в., 1,9д. Т. (8-029) 7674127, (8-044) 7676327.
- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### КУПЛЮ

- Аўто ў любым стане. Т. (8-029) 1261119.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*
- Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052. *
- Любое аўто на ходу. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*
- Зубчастую рэйку да ГАЗ-66, рулявы механізм да КРАЗ, шыны, дыскі. Т. (8-029) 8588959.

### ІНШАЕ

- Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 10 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*
- Паслугі экскаватара ЮМЗ. Усе віды земляных работ. Самазвал 10 т. ІП Крэнць С.М. УНП 692015814. Т. (8-044) 5543967, (8-029) 8762233.*

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-01771) 32194, (8-033) 6029250.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына, д. 9, кв. 56, 5 паверх, агульная плошча 27,6, жылая 16,9, цана дагаворная. Т. (8-01771) 27990, (8-029) 2534684 Ганна.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, агул. плошча 21,5/12,2/5,2. Торг. Т. (8-0176) 778970, (8-029) 7558660.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, новабудоўля. Т. (8-033) 6626858.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына,16 з добрым рамонтам.Т. (8-029) 1590102.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, еўрарамонт. Магчымы абмен на Мінск з даплатай. Т. (8-029) 2749893.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне на першым паверсе, плошча 31,4/42,7, без пасярэднікаў. Т. (8-029) 6188711.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, раён Зеніт. Т. (8-029) 6305419.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 2 паверх. Тэрмінова. Цана дагаворная. Т. (8-033) 6801320.
- Гараж ГБК-Ізбіна (каля АЗС), 4200 рублёў. Т. (8-029) 2375721.*
- Гараж у Вілейцы, вул. Незалежнасці. Т. (8-029) 5604815.*
- Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*
- Дом у в. Людвінова. Т. (8-033) 6698067.
- Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*
- Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*
- Дом у Вілейцы. Т. МТС (8-029) 7039162.*
- Дом, 18 км ад Вілейкі. Тэрмінова. Т. (8-029) 8598747.*
- Катэдж 144,8 кв. м у а/г Выверы Маладзечанскага раёна, сучасны, 100 % гатунку, газ, усе камунікацыі, гараж, 0,23 га, з мэбляй. Тэрмінова. Нядорага. Т. (8-029) 1560340.*
- Садовы ўчастак у кааператыве "Брыльянт" у вёсцы Ласі, ад чыгуначнага прыпынку 1400 м. Блочны домік, хлеўчык (сарай), агарод, ягаднік – за невялікую цану. Т. (8-0176) 551631, (8-033) 6407558.*

### ЗДАМ

- 2-пакаёвую кватэру сям'і ў Вілейцы, раён завода "Зеніт". Т. Вэлком (8-044) 5763029, МТС (8-029) 2589381.*
- 2-пакаёвую кватэру на доўгі тэрмін. Макаўе. Т. (8-029) 8505995.
- Здам у арэнду ізаляванае памяшканне ў будынку магазіна ў Вілейцы. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977 Т. (8-029) 5551515.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*




Дзяўчынкі ў жоўтых спаднічках развесялілі ўсіх удзельнікаў свята, а заадно і мінакоў.

# На флэшмобе дзеткі танцавалі, а міліцыя дарыла падарункі

МАЛАДЗЕЧНА

Свята ў нядзелю, 9 кастрычніка, зладзілі навукова-забаўляльны цэнтр "Тэрыторыя ведаў" і студыя сучаснага танца "Пластылін".

Выхаванцы студыі танцавалі запальныя танцы. За гэта атрымалі шарыкі ад "Тэрыторыі ведаў".

Пасля танца дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош** правёў віктарыну, за правільныя адказы ўдзельнікі атрымоўвалі флікеры, закладкі, размалёўкі, бланкі для раскладу ўрокаў.

Музычныя госці, калектыў "Надзея", стварылі восеньскі настрой.

Удзельнікаў асабліва прываблівіў трохметровы мішка Умка, з якім хацелася і фатаграфавацца, і абдымацца.

**Аддзел інфармацыі.**

## "Як не працуе? Гадзіннік працуе... часткова"

МАЛАДЗЕЧНА

Тыдзень таму мы пісалі пра тое, што гадзіннік насупраць кінатэатра "Радзіма" паказвае няправільны час, а з аднаго боку ў яго ўвогуле адваліліся стрэлкі.

Галоўны энергетык прадпрыемства "Камунальнік" **Міхаіл Семянкевіч** абяцанне выканаў і праз тыдзень пагадзіўся адказаць на пытанне, чаму ж да лёсу прыгожага гадзінніка так абыякава адносяцца ў "Камунальніку":

– Ну, як гадзіннік не працуе? Ён працуе... часткова. Гадзіннік знаходзіцца на балансе райвыканкама. І грошы на яго рамонт павінны выдзяляць яны. Мы звярталіся з гэтым пытаннем у выканкам, але нам адмаўлялі.

**– Колькі будзе каштаваць рамонт гадзінніка?**

– Суму мы называлі прыкладную. Я яе агучыў нашаму дырэктару. Можа, для выканкама гэта і не дорага, але для "Камунальніка" дорага.

**– Дык колькі грошай трэба на рамонт?**

– Дырэктар ведае.

Чаму галоўны энергетык робіць з цаны рамонту гадзінніка таямніцу, невядома. Бо на сайце дзяржзакупак любыя расходы ўсё адно фіксуюцца.

Напрыклад, замена ліфта ў доме па вуліцы Францыска Скарыны каштуе 32 595 рублёў.

**Наталля ТУР.**

## Няшчасці на вадаёмах сёлета адбываліся толькі ў забароненых для купання

МАЛАДЗЕЧНА

**Няшчасных выпадкаў на вадаёмах, дазволеных для купання, не было.**

З пачатку года ў раёне адбыліся чатыры патапленні. Сярод іх – адно дзіця з Мінска.

Два патапленні адбыліся ў стане алкагольнага ап'янення. Толькі адзін са смяротных зыходаў здарыўся падчас купання. І адбыўся ён у забароненым для купання месцы.

Летась за аналагічны перыяд патанула сямёра чалавек, сярод іх адзін непаўнагадовы.

Галоўны ўрок сёлетняга сезона – нельга купацца, катацца на лодках ці лавіць рыбу ў нецвярозым стане.

Як бацькам, так і педагогам неабходна праводзіць прафілактычныя гутаркі з дзецьмі, асабліва 9-14 год. Паводле аналізу няшчасных выпадкаў, дзеці менавіта гэтага ўзросту найчасцей трапляюць у бяду.

Бацькам трэба жорстка і вельмі адказна кантраляваць дзяцей каля вадаёмаў.

Многія дзеці не ўмеюць плаваць. Вучыць іх трэба бацькам, а таксама звяртаць на гэта ўвагу ва ўстановах адукацыі.

Падчас падрыхтоўкі і цягам лета ў працоўных і навучальных калектывах, летніках, дзіцячых садках прадстаўнікі ТВВОД праводзілі гутаркі пра тое, як бяспечна паводзіць сябе на вадзе, як можна выратаваць ці аказаць першую дапамогу тым, з кім здарыўся няшчасны выпадак на вадзе.

**Дзмітры ГЕНЕРАЛАЎ, старшыня Маладзечанскай арганізацыі таварыства выратавання на водах.**

## Шукаюць падазраванага ў злачынстве

Маладзечанскі райаддзел Следчага камітэта шукае падазраванага ў злачынстве, прадугледжанага артыкулам Крымінальнага кодэкса "Ухіленне ад выплаты штрафу".

Падазраваны – **Барзенка Іван Уладзіміравіч**, які нарадзіўся 12 жніўня 1965 года.

Апошняе вядомае яго месца жыхарства – кватэра па Вялікім Гасцінцы ў Маладзечне.

Калі вы штосьці ведаеце пра месцазнаходжанне Барзенкі І. У., паведаміце ў Маладзечанскі РАСК па тэлефонах: **(80176) 77-17-34, (8044) 761-84-81** ці **102.**

**Паводле паведамлення Маладзечанскага РАСК.**

# Была б ідэя, а грошы знойдуцца: крыху пра грамадскія ініцыятывы Вілейкі і Кіева

ВІЛЕЙКА

**Сёлета ў вілейскім парку адкрылі скульптуру маці, а крыху раней тут з'явілася пляцоўка для варкаўтынгу.**

Таксама ў парку, толькі ў кіеўскім, ад жніўня запрацавала шыкоўная пляцоўка "Жыццялюб" для адпачынку сталых людзей. А на Хрaшчацiку паставілі лаўкі для падзарадкі гаджэтаў.

На беразе Вілейскага вадасховішча мінулым летам упершыню зладзілі вялікі фэст юшкі, а на беразе Дняпра ў Кіеве перыядычна праводзяць выставы, фестывалі і канцэрты. Для гэтага тут ёсць цудоўная артгалерэя.

Як сярод знаёмых і незнаёмых людзей небывалыя актывісты і мясцовыя ўлады ў невялікім беларускім гарадку і ў сталіцы Украіны знаходзяць грошы на добрыя справы? І хто яны, гэтыя шчодрыя грантадаўцы і фундатары?

### Клуб "Жыццялюб" ад кіеўскага алігарха

**Гарык Карагоцкі** вырас у Кіеве ў старажытным раёне Падол. Цяпер ён адзін з самых уплывовых украінскіх бізнесменаў.

– Гарык эпатажны, паспяховы, аўтар кнігі "Як патраціць мільён". У горадзе яго ведаюць і любяць, – распавядае выканаўчы дырэктар клуба "Жыццялюб" **Дзмітры Заражэўскі.**

Некалі Гарык прыйшоў у парк, каб паглядзець, як бавяць час яго бацькі-пенсіянеры. Карцінка не радавала. Закінуты кінасад, так сабе танцпляцоўка. І правады, нацягнутыя на дрэвы. Ад чаго то палкае танга выключаецца на самым цікавым месцы, то нечакана гасне святло.

І вось пяць год таму Гарык Карагодскі заснаваў дабрачынnae таварыства "Жыццялюб". Мастакі і дызайнеры на валанцёрскіх пачатках пачалі ствараць крэатыўную пляцоўку для сталых людзей.

З'явіліся арыгінальныя клумбы, яркія крэслы-качалкі, прыгожыя свяцільнікі, добраўпарадкаваная танцпляцоўка, экран для прагляду кіно на адкрытым паветры.

Не сядзелі без справы і самі пенсіянеры. Актыўна расчышчалі закінутыя тэрыторыі, прыносілі з кватэр старыя рэчы, якімі аздаблялі сваю пляцоўку. Па іх словах, тады зразумелі простую ісціну: хочаш жыць на пенсіі весела – закасвай рукавы і працуй.

Усё атрымалася. Аднак першапачаткова адміністрацыя парку і некаторыя пенсіянеры ўспрынялі ініцыятыву Гарыка ў штыкі. Думалі, што алігарх хоча "захапаць" іх пляцоўку.

А ў выніку атрымалася, што тыя ж пенсіянеры маюць цяпер сваю прастору. Да таго ж, дзякуючы партнёрам і валанцёрам, цалкам бясплатную.



Так адпачываюць пенсіянеры ў Кіеве.

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

### Віллянін хутар – ад актывістаў, фантан – ад мясцовых улад

Ёсць чым сёння пахваліцца і Вілейцы. Віллянін хутар, моладзевы скейт-парк, пляцоўка для заняткаў гімнастыкай на свежым паветры, новыя веласцяжыны. Усё гэта, на думку былога галоўнага архітэктара Вілейшчыны **Галіны Кажарновіч**, вынік працы ініцыятыўных людзей.

Помнік, прысвечаны падзеям 1812 года, ля дарогі Вілейка-Маладзечна ўстанавілі дзякуючы актыўнасці **Уладзіміра Ліхадзедава**. Сёння сюды прыязджаюць французскія і польскія дэлегацыі.

Адкрыццё фантана ў Вілейцы – гэта ўжо ініцыятыва мясцовых улад.

– Хацелася, – кажа Галіна Іосіфаўна, – прывабіць людзей на гарадскую плошчу. Доўгі час яна была пустой, і віляйчане ўспрымалі яе толькі як месца правядзення парадаў.

Вырашылі, што жыхароў найбольш прывабіць вада. І не памыліліся.

Але паступова з плошчы маладыя людзі "перайшлі" на скейт-пляцоўку. Былі задумы на яе месцы зрабіць зону для чытання на свежым паветры. Або зладзіць пляцоўку для прагляду фільмаў.

Але намеснік дырэктара вілейскага Палаца культуры **Вольга Шляпо** адчула, што маладым людзям трэба нешта іншае. Яна стала аўтарам і кіраўніком стварэння скейт-парку ў горадзе, выйграўшы грант ЕС/ПРААН.

– Галоўнае, – захапіць людзей сваёй ідэяй. І тады ўсё атрымаецца, – дзеліцца рэцэптам поспеху кіраўнік таварыства "ЗОВіК" **Таццяна Цітуленка**.

**Дзякуючы падтрымцы Еўрасаюза ў Вілейцы чысцяць раку, развіваюць роварны рух, будуюць дзіцячыя пляцоўкі, ладзяць фестывалі.**



А так моладзь у Вілейцы.

Фота з архіва "РГ".

А ў вёсках Вілейшчыны з'яўляюцца сельскагаспадарчыя кааператывы і развіваецца экалагічнае земляробства.

### А як актывісты заахвочваюць кіяўлян

Грамадскія актывісты Кіева таксама могуць захапіць сваёй ідэяй гараджан. Ініцыятыў у сталіцы Украіны ажыццяўляецца каля 500.

Напрыклад, сёлета вясной на Абалоні ўрачыста адкрылі парк Наталка. Старажытнае ўрочышча хацелі забудаваць, аднак грамадскія актывісты выступілі супраць. У выніку гарадскія ўлады іх пачулі. І сёння парк Наталка – адно з любімых месцаў для адпачынку і фотасесій гараджан.

Сем гектараў зямлі добраўпарадкаваныя і дагледжаныя. Тут новыя сцяжынкі для пешаходаў і раварыстаў, крэатыўныя клумбы, дзіцячыя пляцоўкі, новыя сметніцы.

Дзякуючы дзейнасці ўсё тых жа актывістаў на беразе Дняпра ў Кіеве размясцілася галерэя "АртПРЫЧАЛ". Тут ладзяць выставы, фестывалі, канцэрты, кірмашы.

Лавачкі для падзарадкі гаджэтаў і сметніцы, якія самі спальваюць смецце, – вынік сумеснай працы актывістаў і Кіеўскай гарадской рады. Як распавяла грамадская актывістка **Марыя Грышчанка**, штогод у бюджэце горада ёсць пэўная частка грошай, якую ўлады трацяць на ажыццяўленне ініцыятыў актывістаў.

Добраўпарадкаванне горада – гэта перш за ўсё вынік ініцыятывы людзей. Грошы – паняцце другаснае, пераканаmake была галоўны архітэктар Вілейшчыны Галіна Кажарновіч. І гэтае выказванне аднолькава падыходзіць і для Вілейкі, і для Кіева.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# “Каго любіш? – Люблю Беларусь! – То ўзаемна...”

## Помнік паўстанцам 1863 года на Астравеччыне скарае сваёй велічнасцю






Помнік паўстанцам выглядае як ўваткнуты ў курган вялізны меч. Рукаятку вянчае выява герба “Пагоня”, а на лязе словы: “Каго любіш? – Люблю Беларусь! – То ўзаемна...”. Ля падножжа помніка – адціснутыя ў мармуры сляды кос. Калі вам пашанцуе, да помніка вас правядзе сабака Дзік. Праўда, фатаграфавацца не дасць, будзе скакаць і ласціцца. Яндэкс-карта паказвае, што ад Маладзечна да патрэбнай нам Слабодкі ехаць 99 кіламетраў. Фота Наталлі ТУР.





АСТРАВЕЦ

**Помнік паўстанцам 1863 года ўсталявалі пяць гадоў таму ў вёсцы Слабодка, што на Астравеччыне. Але на гэтым тыдні пабачыць яго на ўласныя вочы ўдалося ўпершыню.**

Як дабрацца да помніка і ўдыхнуць на поўныя грудзі паветра свабоды, незалежнасці і гонару за краіну, мы раскажам вам у нашым артыкуле.

### Падвох 1: на Астравеччыне дзве Слабодкі

Апісанне гэтага помніка ёсць у інтэрнэце, але пра яго сказана, што ён знаходзіцца ў вёсцы Слабодка на Астравеччыне. Таму калі мы ўвялі ў навігатар каардынаты гэтай вёскі, той нам паказаў, што Слабодка знаходзіцца непадалёк ад Астраўца. Туды і накіраваліся.

Калі звярнулі ў Слабодку, нам насустрач выйшаў мужчына, які нёс вілы.

**– О, дык тут нашчадкі Каліноўскага не перавяліся, – пажартавалі мы.**

Аднак, акрамя гэтага нашчадка Каліноўскага, вёска была пустая, магазін закрыты і папытацца, дзе знаходзіцца помнік, не было ў каго.

На шчасце, па дарозе ўсё ж трапіўся мясцовы жыхар, які дакладна сказаў, што помніка паўстанцам у іх вёсцы няма.

– У нас толькі два крыжы ў вёсцы са славутасцяў. А вам, пэўна, іншая Слабодка патрэбная, наша ж Астравецкая, а тая Варнянская.

– Ці далёка адсюль тая Слабодка?

– Ой, далёка, кіламетраў з 30 будзе.

Аднак, праехаўшы да гэтага больш за 70 кіламетраў, назад паварочваць было бессэнсоўна.

Адзінае, што засмучала, гэта дробны восеньскі дождж, які паскорыў надыход змяркання больш, чым на гадзіну.

### Падвох 2: навігатар кажа: “Вы на месцы”, а вакол лес і ніякага помніка

Да таго часу, як мы трапілі ў правільную Слабодку, пачало цямнець, хаця гадзіннік паказваў шэсць гадзін вечара.

Прыехалі. Скончылася вёска. Навігатар папярэдзіў: “Вы на месцы”. Мы прыпаркавалі машыну і выйшлі ў лес. Хм... сцежка вядзе ўглыб лесу, навігатар настойвае, што месца нашага прызначэння ў 50 метрах. Пакруціліся, пахадзілі – няма.

Праўда, у метрах пяцідзесяці былі жылыя дамы. Вырашылі запытацца у мясцовых жыхароў, дзе ж той помнік, які так старанна хаваўся ад нас.

Адзінае, чаго баяліся, што мясцовыя адкажуць, што недзе ў 30 кіламетрах ёсць яшчэ трэцяя Слабодка. Не, баяліся дарэмна.

Ідзём мы па Слабодцы, наперадзе возера, закінутыя хаты і ніводнай жывой душы... як раптам насустрач выбягае вялізны сабака.

Сабака стаў брахаць, і, на шчасце, мы пачулі:

– Дзік, фу! Хадзіце, не бойцеся, ён у нас яшчэ маленькі, таму дурнаваты, – адказаў нам мужчына.

– Мы помнік паўстанцам шукаем. Ведаеце пра такі?

– А як жа. Ён там, – мужчына паказаў рукой на свой агарод. – Ідзіце. Стойце! А вы на машыне? Як будзеце з'язджаць, праверце, каб Дзік не скокнуў у машыну. Ён у нас такі.

Так у нашай кампаніі народу паболела. Дзік шчыра радаваўся і вёў нас да помніка.

**... Ускраіна лесу. Справа возера, над якім сцелецца дымок ад лазні. Высачэзны зялёны курган, а над ім узвышаецца шэры меч. Праўда, аж дух захапіла.**

На лязе мяча словы, якія добра вядомыя кожнаму беларусу: “Каго любіш? – Люблю Беларусь! – То ўзаемна...”.

І вось тут ад гэтай прыгажосці, ад шчырасці літаральна распраўляюцца плечы і падымаецца ад гонару ўсё ўнутры.

Пра помнік мы ведалі толькі тое, што яго паставілі тут цалкам за ўласныя грошы аднаго з мясцовых гаспадароў. І што помнік гэты зрабіў скульптар **Ігар Засімовіч**. А пра Ігара Засімовіча, у сваю чаргу, мы ведалі тое, што ён таксама аўтар помніка Рыгору Барадуліну, які ўсталяваны на яго магіле.

У прынцыпе ўсё, але калі разгледзіш гэты помнік, дакранешся да яго, памацаеш кожную літару на ім, разумееш усё, што хацеў сказаць аўтар і што засталося нявыказаным.

### Падвох 3: помнік знаходзіцца на прыватнай тэрыторыі

У гэтым асноўная складанасць дабрацца да яго. Помнік не бачны з дарогі (а можа, нам проста не пашанцавала з надвор'ем?). Слабодку трэба праехаць усю, і на апошнім павароце звярнуць направа. Калі справа будзе возера – вы на месцы. Грукайцеся ў драўляны дом з вялікімі шыбамі. Здагадацца, што гэта той самы дом, вельмі проста, на слупку агароджы – выява “Пагоні”.

У прынцыпе, вас можа сустрэць Дзік. Тады і да помніка паўстанцам 1863 года рукой падаць.

**Наталля ТУР.**




# У Мінск стала хадзіць маршрутка, тэлефоны экстранных службаў змяніліся

## Пра што пісала "Рэгіянальная газета" ў 2007 годзе?

### У пачатку студзеня з'явіўся "Айфон-1", пачалася новая эра ў мабільнай сувязі.

А вось эпоха Гары Потэра ў 2007 годзе наадварот закончылася. У гэтым годзе выйшла апошняя, сёмая, кніга пра маленькага чараўніка. Сусветны кінапракат ірве Джэк Верабей і трэцяя частка "Піратаў Карыбскага мора", а ў Беларусі і рэгіёне было сваё мора падзей.

### Лічыльнікі вады

Ужо дзесяць год, як у нашых кватэрах стаяць лічыльнікі на ваду. У 2007 годзе па нормах, па якіх плацілі спажыўцы, выходзіла 260 літраў вады ў суткі. Не цяжка падлічыць, колькі нам цяпер удаецца зэканоміць.

### "Додж-Караван" насмерць збіў двух падлеткаў

10 гадоў мінула з той страшнай трагедыі, пра якую, упэўнеая, памятаюць і сёння. У Маладзечне на пешаходным пераходзе ля парку аўтамабіль, які не спыніўся, збіў насмерць брата і сястру. Падлеткам было 14 і 15 гадоў адпаведна.

"Рэгіянальная газета" пісала: "Машына, якая ехала па першай паласе, прытармазіла, каб прапусціць маладых людзей, чаго не зрабіў "Додж-Караван". Адбыўся наезд, пасля чаго іншамарка знікла". 22-гадовага кіроўцу тады знайшлі ля дэпо чыгуначнай станцыі Маладзечна. Па словах міліцыянера, у якога бралі каментар, хлопцу пагражала да сямі гадоў зняволення.

### Каток залівалі на стадыёне

Эх, каб цяпер вярнуць гэту традыцыю. Уявіце, які б каток атрымаўся. Але надвор'е ў апошнія гады ў Беларусі зусім не зімовае. Нават у 2007-м у пачатку лютага была адліга. І дзесяць гадоў таму гэта задавальненне было нятанным.

### Новы нумар экстранных службаў – 101, 102 і 103.

Ад 31 сакавіка 2007 года змяніліся нумары экстранных службаў. Зроблена гэта было для таго, каб прывесці нумары гэтых службаў да міжнародных стандартаў. А вось што цікава: да 2008 абяцалі, што замест міжнароднай "васьмёркі" будзе два нулі, на міжгарод – адзін 0.

### Дом з пакватэрным ацяпленнем

10 гадоў таму ў Маладзечне па вуліцы Прытыцкага, 8-а пабудавалі першы дом з пакватэрнай сістэмай ацяплення.

Тагачасны дырэктар "Барыта" распавядаў, што ў доме праведзеныя толькі газ і халодная вада. А абаграваецца жыллё невялічкім катлом, што ўсталяваны ў кухні кватэры. Казалі, што выгада для жыхароў будзе відавочная. І на момант здачы дома ў ім была пустая толькі адна аднапакаёвая кватэра.

### Маршрутка да Мінска

10 гадоў таму з Маладзечна ў Мінск сталі хадзіць маршруткі. У інтэрв'ю маладзечанцы казалі: "Сёння ўпершыню праехаў на маршрутцы. У электрычку больш не сяду ніколі". А дырэктар прадпрыемства "Маркізет-Стыль" **Андрэй Брагін** казаў: "Цяпер на рэйсе працуюць дзевяць машын. Кошт білета – 5 тысяч". На электрычку ж у 2007 годзе білет каштаваў 3 960 рублёў.

### Стыхія спыніла фестываль

Многім маладзечанцам фестываль 2007 года помніцца і сёння, калі падчас канцэрта грымнула навальніца і пайшоў такі лівень, што ў спевакоў павыключаліся мікрафоны, а ў тэлевізійнікаў – камеры. У прынцыпе, лета было гарачае, таму многія маладзечанцы з канцэрта дадому... плылі, у літаральным сэнсе гэтага слова. Вада, кажуць відавочцы, на рагу вуліц Віленскай і Вялікі Гасцінец была амаль па пояс.

### МАЗ уехаў у прыпынак

У лістападзе 2006 года здарылася яшчэ адно страшнае і рэзананснае ДТЗ. Тады аўтамабіль МАЗ літаральна расплюшчыў павільён аўтобуснага прыпынку ў вёсцы Цюрлі. У той трагедыі загінулі трое жанчын, што чакалі аўтобус. А ў чэрвені 2007 года суд пакараў кіроўцу сямі гадамі зняволення.

### Чыгуначны вакзал на рэстаўрацыі, школу зруйнавалі

У ліпені 2007 года замест прыгожага будынка са стогадовай гісторыяй маладзечанцы і госці горада бачылі толькі амаль разбураны будынак, без даху і вокнаў. Затое абяцалі зрабіць прыгажосць. І абяцанне выканалі.

А ў Насілаве будынак школы не рэстаўравалі, а наўпрост знішчылі з-за пагрозы абрушэння.

### А Вілляна да гэтага часу ўсё кліча жаніха

31 кастрычніка ў Вілейцы з'явілася скульптура Вілляны. З'явілася яна з легенды пра тое, што Вілляна, або Ульяна, кахала Сцяпана. А той з невядомай прычыны ператварыўся ў камень. Дзяўчына гаравала і плакала над ім. І з яе слёз пачалася рака Вілія.

Скульптар **Уладзімір Слабодчыкаў** расказваў:

– Вобраз Вілляны – наш, тыповы, беларускі. Наша жанчына адначасова і мяккая, і моцная, упэўненая. Бачыце, яна ў мяне не плача, як у легендзе, а кліча жаніха. Верыць, што ён вернецца, прыйдзе".

### У Валожыне рухнула бальніца, а ў Чысці зруйнавалі Дом культуры

"Пачуўшы моцны незразумелы шум каля шасці раніцы ў нядзелю, 9 снежня, жыхары прыватных дамоў на вуліцы Горкага падумалі, што здарылася дарожная аварыя. На самой справе, гэта абрушылася частка недабудаванага корпуса бальніцы".

Будынак у Чысці ўзарвалі 10 снежня. У адрозненне ад Валожынскага незапланаванага разбурэння, знос Дома культуры ў Чысці быў запланаваны. Ён жа не выкарыстоўваўся 12 гадоў.

– Стаў непрыдатны для эксплуатацыі пасля таго, як у сістэме, выведзенай на гарышча, палопаліся трубы, – распавядаў у 2007 годзе старшыня Чысцінскага сельсавета **Генрых Кутас**. – Аварыя была сур'ёзная. Драўляныя перакрыцці ад вады набрынялі і правіслі. Будынак прыйшлося закрыць як аварыйны. Ён будаваўся, калі ў Чысці было тысячу жыхароў, і быў разлічаны на 100 месцаў. Сёння ў Чысці жыве 5 300 жыхароў.

### Першая опера ў Маладзечне

У 2007 годзе Маладзечанскі моладзевы музычны тэатр пад кіраўніцтвам **Рыгора Сарокі** паставіў першую маладзечанскую оперу Пятра Чайкоўскага "Іаланта". Ролі тады выканалі выкладчыца музычнага вучылішча **Наталля Шыбко**, навучэнцы вучылішча **Уладзімір Дзмітрук**, **Анатоль Сіўко**, **Арцём Хамічонак**, **Павел Валужын** і **Яна Янэль**.

Вось так з турботамі і песнямі "Рэгіянальная газета" перажыла 2007 год, які пачаўся ў панядзелак.

**Наталля ТУР.**

● КАЛЯНДАР

### 13 КАСТРЫЧНІКА

**1888.** Нарадзіўся Язэп Драздовіч, мастак, скульптар, пісьменнік, этнограф, археолаг, педагог, адзін з заснавальнікаў нацыянальна-гістарычнага жывапісу. Памёр у 1954 годзе.

### 14 КАСТРЫЧНІКА

**Дзень маці.**

**50 гадоў** (1967) з пачатку каляровага тэлевяшчання ў СССР.

### 15 КАСТРЫЧНІКА



**1817.** 200 гадоў назад у Салюры (Швейцарыя) памёр **Тадэвуш Касцюшка**, ваенны інжынер, дзяржаўны і вайсковы дзеяч Рэчы Паспалітай, які стаў нацыянальным героем у Беларусі, Польшчы і ЗША. Удзельнік барацьбы Рэчы Паспалітай супраць Расіі і Прусіі, а таксама ўдзельнік вайны за незалежнасць ЗША. Лідар нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 года ў Рэчы Паспалітай супраць расійска-прускай акупацыі краіны. Нарадзіўся ў 1746 годзе.

**1909.** Нарадзіўся **Сяргей Ракіта** (сапр. Законнікаў), паэт.

**1896.** Памерла **Марыя Багдановіч** (дзяв. Мякота,) маці Максіма Багдановіча. Пахаваная на старых праваслаўных могілках у Гародні. Нарадзілася ў г. Ігумен, цяпер Чэрвень, у 1869 годзе.

**1955.** У Ашмянах адкрыўся краязнаўчы музей імя Францішка Багушэвіча.

**110 гадоў** з дня нараджэння **Рамана Сабаленкі** (1907 – 1975), беларуская пісьменніка.

### 17 КАСТРЫЧНІКА

**1696.** Нарадзіўся Аўгуст III, кароль Рэчы Паспалітай і вялікі князь літоўскі (1733-1764 гг.).

**1976.** У Бэнтан-Харбар (Мічыган, ЗША) памёр **Радаслаў Астроўскі**, грамадска-палітычны дзеяч, педагог, прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады, дзеяч эміграцыі ў Германіі, Вялікабрытаніі і ЗША. Пахаваны на беларускіх могілках у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі, ЗША).

### 18 КАСТРЫЧНІКА

**1991.** Памёр **Пятро Бітэль** (нар. у 1912), беларускі паэт, пісьменнік, перакладчык, настаўнік, праваслаўны святар. Пахаваны ў вёсцы Вішнева Валожынскага раёна.

**1906.** Нарадзіўся **Алесь Салагуб** (в. Зарудзічы, цяпер Смаргонскі раён), паэт, публіцыст.

**1991.** Вярхоўны Савет прыняў Закон "Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь".

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Без неабыякавых людзей інвалідныя вазкі нам не адужаць: сям'я Чарнецкіх просіць дапамогі

МАЛАДЗЕЧНА

**Да нас у рэдакцыю звярнуліся маладзечанцы Уладзімір і Алена Чарнецкія. Звярнуліся, каб распавесці пра сваю бяду і папрасіць дапамогу.**

– Вашу газету чытаюць не толькі ў Маладзечне, яна даходзіць да рэгіёнаў, – адзначыў Уладзімір. – Таму і звяртаемся да вас.

У шматдзетнай сям'і Чарнецкіх гадуюцца тры хлопчыкі. У дваіх, 17-гадовага **Уладзіслава Чарнецкага** і 15-гадовага **Рамана Чарнецкага**, сур'ёзнае генетычнае захворванне.

Хвароба пачынае праяўляцца ў першыя 3-5 гадоў жыцця. За кароткі час распаўсюджваецца і ўзмацняецца слабасць у мышцах.

Спярша цярпяць мышцы тазавага пояса і сцёгнаў, пасля слабеюць мышцы плячэй, спіны. Спачатку хвораму цяжка рухацца, потым ён не можа хадзіць зусім.

Менавіта таму сям'і неабходны функцыянальныя ложак і спецыялізаваны інвалідны вазок, з дапамогай якога хворыя хлопчыкі змогуць перамяшчацца ў памяшканні, а таксама па дарогах з цвёрдым пакрыццём.

**Старэйшы сын Чарнецкіх, Уладзіслаў, прыкаваны да ложка ўжо паўгода.**

Па словах бацькі, сын цягнецца да новых ведаў, цікавіцца космасам, гісторыяй, тэхнікай, мае здольнасці да мастацтва, любіць чытаць духоўную літаратуру і іншыя кніжкі.

Улад на надомным навучанні скончыў дзевяць класаў і атрымаў пахвальную грамату.

Сярэдні сын, Раман, таксама старанна вучыцца. Праўда, як і брат, з-за хваробы ён не можа наведваць школу. Настаўнікі прыходзяць да Чарнецкіх дамоў. А яшчэ, па словах бацькоў, хлопчык мае музычныя здольнасці. На сённяшні дзень Рома можа перамяшчацца толькі з дапамогай інваліднага крэсла.

У абодвух хлопчыкаў дыяфрагма і іншыя мышцы, што кіруюць працай лёгкіх, слабеюць. Таму лёгкія не могуць працаваць на поўную сілу.

З-за гэтага браты Чарнецкія пакутуюць ад галаўнога болю, скардзяцца на жахлівыя снабачанні. Слабеюць разумовыя здольнасці хлопчыкаў, усё цяжэй і цяжэй ім захоўваць бадзёры настрой.

Паміж сабой Раман і Уладзіслаў сябруюць, распавёў Уладзімір. Браты падтрымліваюць адзін аднаго у такіх нялёгкіх жыццёвых абставінах, з якімі вымушаны былі сутыкнуцца.

Падтрымліваюць і маму з татам, спрабуюць неяк палегчыць і без таго іх нялросгае жыццё. Калі магчыма, дапамагаюць справай, калі не – то проста добрым словам.

– Атрымліваецца так, што зносіны нашых хлопчыкаў часцей за ўсё абмяжоўваюцца сям'ёй, – кажа Алена Чарнецкая.

Мама спадзяецца, што дзякуючы інваліднаму вазку, які яны плануюць набыць, Улад і Рома змогуць выязджаць на свежае паветра і мець зносіны з аднагодкамі. Аднак без дапамогі неабыякавых людзей, кажа Алена, такі дарагі набытак сям'і не адужаць.

На пачатку верасня ў Маладзечне ў рамках фестывалю "Скарбніца" ладзілі акцыю "Добрае сэрца", накіраваную на аказанне адраснай дапамогі Уладзіславу і Раману Чарнецкім.

Акцыя скончылася 10 верасня, аднак дапамагчы братам Чарнецкім можна і цяпер.

**Аддзел інфармацыі.**





Фота забяспечанае Уладзімірам ЧАРНЕЦКІМ.

Братам Уладзіславу (злева) і Раману Чарнецкім неабходныя інвалідныя вазкі.

### Рэквізіты для дапамогі

**Чарнецкі Раман Уладзіміравіч**

Дыягназ: прагрэсіраваная мышачная дыстрафія, псеўдагіпертрафічная форма Дзюшэна, вялы стойкі выражаны тэтрапарэз, кантрактуры буйных суставаў.

Дабрачынны рахунак адкрыты ў філіяле 601 – горад Маладзечна, вуліца Прытыцкага, 13.

**Беларускія рублі** – транзітны рахунак BY58AKBB38193821055566100000 на дабрачынны рахунак BY95AKBB31340000157916120601 у філіяле 601/ Аперацыйная служба, дата заканчэння дзеяння дагавора дабрачыннага рахунка – 01.01.2027 года.

**Прызначэнне плацяжу:** збор на набыццё спецыяльнага вазка для Чарнецкага Рамана Уладзіміравіча.

**Чарнецкі Уладзіслаў Уладзіміравіч**

Дыягназ: прагрэсіраваная мышачная дыстрафія, псеўдагіпертрафічная форма Дзюшэна, вялы стойкі выражаны тэтрапарэз, кантрактуры буйных суставаў.

Дабрачынны рахунак адкрыты ў філіяле 601 – горад Маладзечна, вуліца Прытыцкага, 13.

**Беларускія рублі** – транзітны рахунак BY58AKBB38193821055566100000 на дабрачынны рахунак BY13AKBB31340000157906120601 у філіяле 601/ Аперацыйная служба, дата заканчэння дзеяння дагавора дабрачыннага рахунка – 01.01.2027 года.

**Прызначэнне плацяжу:** збор на набыццё спецыялізаванага вазка для Чарнецкага Уладзіслава Уладзіміравіча.

**Адрас для паштовага перавода:**

***222310, горад Маладзечна, вуліца Заводская, 54.***

Чарнецкі Уладзімір Аляксеевіч.

Дадатковая інфармацыя пра атрымальніка грашовых сродкаў па тэлефоне **+375 33-600-01-81.**

## Электрычкі пайшлі – радавацца рана: ашмянец незадаволены раскладам

АШМЯНЫ

**Да нас у рэдакцыю прыйшоў ліст ад жыхара Ашмянаў Віктара Талочкі. Ашмянец незадаволены раскладам цягнікоў рэгіянальных ліній эканомкласа ў зносінах Мінск-Маладзечна-Гудагай.**

"У многіх газетах са спасылкай на БелТА надрукавалі інфармацыю пра тое, што ад 16 кастрычніка Беларуская чыгунка прызначае прамыя цягнікі па гэтым маршруце, – піша наш чытач. – У №37 "Рэгіянальнай газеты" быў надрукаваны новы расклад цягнікоў са станцыі Маладзечна".

Як адзначае Віктар Талочка, у раскладзе пазначылі, што новы расклад стаў магчымым у сувязі з уводам электрыфікаванага ўчастка Маладзечна-Гудагай. Новыя электрацягнікі павінны зрабіць перамяшчэнне пасажыраў з Ашмянаў, Смаргоні, Маладзечна і іншых гарадоў больш зручным, пазначана ў раскладзе.

Аднак, прааналізаваўшы расклад, наш чытач зрабіў выснову, што пасажырам зручна не стала. Дзве першыя электрычкі з Гудагая ў Мінск ад'язджаюць у 4:31 і 5:54.

На думку Віктара, нават жыхарам Смаргоні будзе нязручна ноччу дабірацца да вакзала. Яшчэ цяжэй – жыхарам Астраўца. А ашмянцам – і ўвогуле, немагчыма. Бо першы аўтобус з Ашмянаў на станцыю прыбывае ў 7:30.

"Атрымліваецца, што самай зручнай будзе трэцяя электрычка, якая ідзе з Гудагая ў 8:21, – піша Віктар Талочка. – Але ж у Мінск гэта электрычка прыбудзе ў 11:10. Нават пазней, чым да гэтага прыбываў дызель-цягнік "Гудагай-Мінск". Хоць электрычка і лічыцца хуткаснай, але сітуацыю гэта не паляпшае".

На думку ашмянца, адзінае выйсце – накіраваць электрацягнік у Мінск крыху раней: не ў 8:21, а хаця б у 8:00. Бо прыбыццё ў Мінск ў 11:10, на думку Віктара Талочкі, мала каго задаволіць.

Мужчына адзначае, што хуткасны цягнік "Вільня-Мінск" праходзіць праз Ашмяны да васьмі гадзін раніцы. Таму перашкод, каб адпраўленне электрычкі ў Мінск зрабіць больш раннім, на думку мужчыны, няма.

"Што да раскладу ў зваротным накірунку, – піша аўтар ліста, – то ў працоўныя дні прэтэнзій няма. А ў выхадныя горш. Хоць ёсць пару дадатковых электрычак, аднак адпраўленне з Мінска ў 11:11 – гэта вельмі рана для тых, хто ў выхадныя знаходзіцца ў сталіцы. Тут палышоў бы цягнік на 14:05, які ходзіць толькі ў рабочыя дні".

На сайце БелТА Віктар Талочка прачытаў, што Беларуская чыгунка праводзіць вывучэнне грамадскай думкі адносна новага раскладу, а прапановы улічаць для раскладу, які будзе ўводзіцца ў снежні.

Аднак аўтару ліста незразумела, куды можна накіроўваць гэтыя заўвагі і прапановы, таму ён і звярнуўся ў рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты".

### Беларуская чыгунка: звяртайцеся на "прамую лінію", чытайце наш сайт

У прэс-службе Беларускай чыгункі растлумачылі, што складанне раскладу – вельмі няпросты працэс. У кожнай краіне, куды ходзяць беларускія цягнікі, ёсць рабочыя групы, якія працуюць над раскладам.

Трэба ўлічыць і рэгіянальныя, і міжрэгіянальныя і міжнародныя перавозкі. Па словах спецыялістаў, людзі не заўсёды думаюць пра гэта, калі скардзяцца на расклад.

Аднак свае пажаданні выказаць можна. Для гэтага існуе "прамая лінія" Беларускай чыгункі. Тэлефанаваць можна на нумар **8 (017) 255-44-77.** Можна зазірнуць на сайт чыгункі і паўдзельнічаць у анкетаванні.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

*Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзеленыя розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу брацтва.*

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.

# Маладзечанец, у якога адабралі лецішча: **“Нас пасялілі на бомбе і цяпер забіваюць”**



Міхаіл Ламака на дачы, якая саграваля і радавала сям'ю амаль 25 год.





30 жніўня дом Міхаіла Ламакі стаў нагадваць месца пасля стыхійнага бедства. Усе рэчы выкінутыя проста ў двор.

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанцу Міхаілу Ламаку 75 гадоў. Ці думаў ён 25 гадоў таму, што з-за памылкі ўладаў яму давядзецца адстойваць свае права не толькі на зямлю, але і на права называць сябе сумленным чалавекам, калі яго абвінавацілі ў незаконным захопе зямлі?**

Драматычныя падзеі, звязаныя з адстойваннем уласнай маёмасці, ужо давялі Міхаіла Сямёнавіча, па яго словах, да інфаркту. І больш змагацца адзін на адзін з несправядлівым, на яго думку, рашэннем уладаў пенсіянер не мог.

Ён звярнуўся ў “Рэгіянальную газету”. І не толькі для таго, каб яму дапамаглі, але і каб выслухалі, і каб звярнуцца наўпрост да тых, хто, гледзячы сталаму чалавеку ў вочы, пытаўся: “Дзед, нашто табе тая зямля, усё адно хутка паміраць?”

## Год 1993. Пачатак

У 1993 годзе ў сям'і Ламакаў адбылася радасная падзея. Сын жаніўся і прывёў нявесту ў свой дом. У хуткім часе чакала яшчэ адна радасная падзея – у маладой сям'і нарадзілася дзіця, а потым і другое.

Як размясціцца ўшасцёх у маленькай кватэрцы? Міхаіл Сямёнавіч і напісаў заяву на імя старшыні Хажоўскага сельсавета **Л.Я. Шчуцкага** з просьбай выдзеліць яму ўчастак зямлі ў вёсцы Слабодка, на малой радзіме мужчыны.

Рашэннем №178 ад 22.03.1993 года Маладзечанскі райвыканкам выдзеліў зямельны ўчастак па вуліцы Сацыялістычнай у Слабодцы Хажоўскага сельсавета.

Шчаслівы гаспадар уласнай зямлі пачаў уладкоўвацца на месцы. Паставіў невялічкі домік 6х8,5, пасадзіў сад, абгарадзіўся плотам. Здавалася б, жыві і радуйся.

Але ў 1994 годзе аказалася, што ўчастак Міхаіла Сямёнавіча і яшчэ двух суседзяў знаходзіцца ў ахоўнай зоне газу высокага ціску.

Аднак, якія наступствы гэта нясе, ніхто не думаў. Сем'і апрацоўвалі зямлю, будаваліся, стала жылі там на працягу 10 гадоў. Плацілі падаткі на зямлю і нерухомасць у Хажоўскі сельсавет.

У 2008 годзе Міхаіл Сямёнавіч усё ж напісаў заяву з просьбай перанесці будынкі на новы ўчастак. Але тая заява засталася без увагі.

Толькі ў 2010 годзе да Міхаіла Сямёнавіча прыехалі прадстаўнікі выканкама.

А ў 2011 годзе Міхаіл Ламака стаў рэгулярна атрымоўваць лісты аб зносе будынкаў з ахоўнай зоны газу.

Вядома, Міхаіл Сямёнавіч чакаў, што разбяруцца па сумленні і выдзеляць іншы ўчастак сям'і, раз атрымалася такая недарэчнасць.

Аднак у Міхаіла Ламакі памірае сын, нявестка з двума дзецьмі атрымоўваюць аднапакаёвую кватэру, Міхаіл з жонкай вяртаюцца ў сваю кватэрку па вуліцы Драздовіча. І ўлады ім адказалі, што ў выдзяленні іншага ўчастка зямлі ім адмоўлена, таму што сям'і не патрабуецца паляпшэнне жыллёвых умоў.

## За тое, што разбурылі дом, Міхаіл Ламака яшчэ мусіць заплаціць грошы

А ў 2016 годзе прыйшло распараджэнне Маладзечанскага райвыканкама. Пасля чаго Міхаіл Сямёнавіч трапіў на бальнічны ложак, – распараджэнне абавязвала прымусова знасіць будынкі за свой кошт.

Аб тым, як 75-гадовыя пенсіянеры будуць зносіць дом, вядома, ніхто не падумаў.

**І вось 30 жніўня гэтага года старшыня Хажоўскага сельсавета Сяргей Шупляк разам з “Камунальнікам” ускрылі замкі ў доме, сарвалі дах, вырвалі вокны і дзверы, разабралі веранду, самавольна зайшлі ў хату.**

Самавольна сабралі з шафы ўсе рэчы, спачатку проста выкінулі ў посцілках на двор, а потым звезлі ў невядомым накірунку – “нібы на захаванне”.

На пытанне, што ж вы робіце, старшыня сельсавета адказаў: “У 1993 годзе былі адны законы, цяпер другія”.

– Нават іконку і два крыжыкі мы не знайшлі ў разбуранай хаце, – кажа Міхаіл Сямёнавіч.

## Калі паказвае фота, Міхаіл Ламака заплюшчвае вочы

Гэту гісторыю Міхаіл Сямёнавіч расказаў, калі я прыйшла да іх. У мужчыны ёсць усе дакументы, якія пацвярджаюць тое, што зямлю ён самавольна не захопліваў, усе звароты ў выканкам, у адміністрацыю Прэзідэнта. На флэшцы запісаныя ўсе размовы з чыноўнікамі. У папцы – усе фотаздымкі дачы, як яна выглядала ад 1993 года да 2017 і разбураны дом цяпер.

Фотаздымкі разбуранага дома паказвае жонка Міхаіла Сямёнавіча. Сам гаспадар схаваўся ў суседнім пакоі і не выйшаў адтуль, пакуль я не паклала фотаздымкі вывай уніз.

– Сэрца слабое, баюся, не вытрымаю, шчыра прызнаецца Міхаіл Ламака, выціраючы слёзы пад акулярамі.

## Натарыяльная кантора: чым жа мы можам дапамагчы?

Гісторыю Міхаіла Ламакі я расказала юрыстам, якія займаюцца вырашэннем зямельных пытанняў. На што атрымала адказ:

– Тут трэба не ў газету скардзіцца, а ў суд падаваць, у пракуратуру. Звяртацца да адвакатаў. Хаця ў нас шмат такіх заяў, і мы не ведаем, чым дапамагчы такім грамадзянам. Сапраўды, існуе закон на прымусовы знос усіх будынкаў.

...Міхаіл Сямёнавіч па гэтым законе яшчэ застаўся вінны дзяржаве 6 900 рублёў за тое, што разбурылі дом.



**Наталля ТУР**
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)

ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ

## Як на шахматах Маладзечна можа развіць турызм і зарабіць шалёныя грошы

**Часта пытаюцца пра карыснасць і перспектывы заняткаў шахматамі. Паспрабую пералічыць розныя варыянты, якія прыйшлі ў галаву з раніцы, проста за кубачкам кавы.**

1. Развіццё логікі, увагі, адказнасці прыняцця рашэнняў, уседлівасці ў дзяцей.

2. Прафілактыка ўзроставай дэменцыі (слабага розуму) ў пажылых.

3. Набыццё добрага хобі на ўсё жыццё.

4. Магчымасць набыць прафесію трэнера на ўвесь свет. Цяпер шахматы папулярныя і запатрабаваныя ва ўсіх краінах з адносна добрым узроўнем жыцця.

5. Шахматы – сінтэз навукі, мастацтва і спорту. Адсюль мараль і рэкамендацыі: усім спартсменам, людзям мастацтва і навукі шахматы рэкамендуюцца для павышэння ўзроўню разумення працы законаў, прынцыпаў і паняццяў тых жа навук, мастацтваў і спартыўных гульняў.

Нездарма ў зборнай Германіі па футболе ужо больш за 30 гадоў практыкуюць сярод футбалістаў заняткі па шахматах, ёсць трэнер па шахматах... для футбалістаў. Не шахматысты прыдумалі і сінтэзавалі новы від спаборніцтваў – шах-бокс. Многія вядомыя палітыкі лічаць шахматы зарадкай для розуму. Адным з іх быў Ленін.

6. Цяпер у свеце існуе вялікая колькасць шахматных турніраў і фестываляў – як дзіцячых, так і дарослых, як вельмі моцных і сур'ёзных па складзе ўдзельнікаў, так і нават вееельмі слабенькіх і аматарскіх. Шахматы ператварыліся ў свайго рода субкультуру.

Людзі падарожнічаюць, сябруюць, падтрымліваюць зносіны, спаборнічаюць. Стварыўся шахматны турызм. У чэшскім горадзе Пардубіцы, дзе насельніцтва каля 70 тысяч чалавек, ужо больш за 20 гадоў летам праводзіцца велізарны фестываль разумовых гульняў, шахматы на якім займаюць, зразумела, цэнтральнае месца. На гэты фестываль з'язджаюцца ў розныя гады на цэлы месяц 3-6 тысяч чалавек.

Уявіце, што ў Маладзечна ў ліпені прыехала гасцей 5 тысяч чалавек, і яны не на дзень прыехалі паесці шашлыкі і пахадзіць па парку, паслухаць музыку і канцэрты, а на месяц!

Яны карыстаюцца гатэлямі, барамі, рэстаранамі, кафэ, стадыёнамі, спартзаламі, кінатэатрамі, тэатрамі і гэтак далей.

Цэлы месяц у горадзе заможныя людзі (турысты заўсёды не самыя бедныя) ходзяць па крамах, карыстаюцца паслугамі цырульняў, лячэбнымі і іншымі паслугамі. Гэта каласальныя сродкі. І гэта ніяк не звязана з паказухай і пафарбаванымі агароджамі, а звязана з патрэбай людзей мець зносіны, спаборнічаць, думаць.

7. У Германіі гадоў дзесяць таму існавала больш за 10 камандных ліг па шахматах. Праводзіліся і праводзяцца камандныя спаборніцтвы паміж вуліцамі, раёнамі, гарадамі, землямі, буйнымі кампаніямі.

Кожная французская вёска лічыць сваім абавязкам і прэстыжам хоць бы раз на год правесці добры невялікі міжнародны турнір па шахматах. Гэта нядорага і прэстыжна. У Амерыцы гадоў з 10 таму юнацкі чэмпіянат па шахматах сабраў больш за 10 тысяч удзельнікаў. У Швецыі наш суайчыннік **Уладзімір Палёў**, які ўжо больш за 25 гадоў трэніруе шведскіх дзяцей у гімназіі па шахматах, аб'ездзіў з імі ўвесь свет.

Кава астыла і скончылася. Да пабачэння і поспехаў. Хай часам шахматная думка наведвае вашу разумную галаву.









**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**

# Ашмянскія і смаргонскія спартсмены перамаглі ў спаборніцтвах па цяжкай атлетыцы

АШМЯНЫ, СМАРГОНЬ

**Спаборніцтвы па цяжкай атлетыцы адбыліся ў Гродне.**

Два дні юныя спартсмены змагаліся ў манежы ЦСК "Нёман" за перамогі ў асабовым і камандным заліках.

Пераможцамі спартакіяды сярод дзяўчат у асабовым заліку сталі: **Дар'я Маёрава** (Гродна, вагавая катэгорыя да 40 кг), другія месцы занялі **Яна Рыбіна** з Ашмянаў, вага да 44 кілаграмаў, і **Анастасія Афанасьева** таксама з Ашмянаў (вага да 53 кг).

У юнакоў у сваіх вагавых катэгорыях першынстваваў у ліку пераможцаў з іншых раёнаў Гродзенскай вобласці **Артур Кардзель** са Смаргоні, вага да 56 кг.

А вось заняць месца на п'едэстале ў агульнакамандным заліку спартсменам з Ашмянаў і Смаргоні не ўдалося.

У камандным заліку першынствавалі юныя цяжкавагавікі Гродзенскай ДЮСШ-9. Другое месца ў Гродзенскай СДЮШАР-Дынама. На трэцім – Скідзельская СДЮШАР.

**Аддзел інфармацыі.**




Фота grodnonews.by



Фота grodnonews.by

**У спартакіядзе па цяжкай атлетыцы лепшымі былі ашмянскія дзяўчаты і смаргонскі хлопчык. Фота са спаборніцтваў.**

НАВІНЫ

## "Ашмяны-БДУФК" і "Чысць" працягваюць набіраць ачкі

АШМЯНЫ, МАЛАДЗЕЧНА

Футбольны клуб "Ашмяны-БДУФК" працягнуў бяспройгрышную серыю.

У дваццаць трэцім туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў другой лізе "Ашмяны-БДУФК" 7 кастрычніка абыгралі дома "Спадарожнік" з Рэчыцы 1:0. Гол гледачы ўбачылі толькі ў канцы матча: на 83-й хвіліне адзначыўся **Аляксей Скварчэўскі**.

"Чысць" у гасцях абыграла 4:2 "Зборную ТФ" з Гомеля. Каманда "Маладзечна-ДЮСШ-4" таксама ў гасцях сустракалася з лідарам чэмпіянату – "ЮАС" з Жыткавічаў. Маладзечанцы прайгралі 1:2.

"Чысць" ідзе на другім месцы, на тры ачкі адстае ад лідара. У наступным туры каманда зможа датэрмінова забяспечыць пуцёўку ў першую лігу. Для гэтага трэба, як мінімум, згуляць унічыю. "Ашмяны-БДУФК" займаюць чацвертую пазіцыю, "Маладзечна-ДЮСШ 4" – шостую.

Чатыры з пяці лепшых бамбардзіраў чэмпіянату – з камандаў нашага рэгіёна. Дзмітры Купнеўскі з "Ашмянаў-БДУФК" з 25 галамі на другім месцы, далей ідзе яго аднаклубнік Вадзім Міхалевіч. Чацвертым і пятым у спісе самых выніковых – Дзяніс Казючыц і Аляксей Кашэўскі з "Чысці".

## "Смаргонь" падзяліла ачкі з "Асіповічамі"

СМАРГОНЬ

У матчы 25-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе "Смаргонь" 7 кастрычніка гуляла ў гасцях з "Асіповічамі". Смаргонцы павялі ў ліку: на 29-й хвіліне **Сямён Смунеў** ударыў з-за межаў штрафной і паклаў мяч у ніжні вугал. Але яшчэ ў канцы другога тайма гаспадары зраўнялі лік 1:1. Больш забітых галоў у матчы не было.

– Узаемна роўная гульня, я лічу, справядлівая і заслужаная нічыя, – так ацаніў гульню галоўны трэнер "Смаргоні" **Аляксей Дварэцкі**.

– Ваша каманда праводзіць два супрацьлеглыя кругі: першы круг скончылі на апошнім месцы, у другім жа атрымалася значна прыбавіць. За кошт чаго?

– Адным сказам на такое пытанне не адкажаш, трэба правільна і дэталёва да ўсяго ставіцца. Пачалі чэмпіянат выдатна, але затым трошкі апусцілі нас на зямлю, і з гэтага псіхалагічнага стану было цяжка выйсці. У міжкругавой паўзе правялі ратацыю па футбалістах. Скажам так, аксакалаў пакінулі, большменш кропкава ўзмацнілі некаторыя пазіцыі, таму і вынік своеасаблівы. Зорак з неба не хапаем, цешымся з таго, што ёсць. Як маладому трэнеру, па тых момантах, якія мы перажывалі зімой, фінансавыя і ўсе астатнія, дастаткова было б восьмага месца, – прыводзіць адказ афіцыйны сайт клуба.

Цяпер "Смаргонь" з 26-ю ачкамі займае трынаццатае месца.

## "Мядзведзі" ідуць пятымі

СМАРГОНЬ

У чэмпіянаце Гродзенскай вобласці па футболе "Мядзведзі" са Смаргоні ў перанесеным матчы з камандай з Ліды залічылі перамогу з лікам 3:0. "Мядзведзі" займаюць пятае месца з васьмі камандаў. Засталося ім правесці яшчэ дзве гульні.

**Аддзел інфармацыі.**



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Прадпрыемства, на якім вырабляецца цэгла.
2. Дзякуючы гэтым часткам цела людзі карыстаюцца дзесятковай сістэмай злічэння.
6. На процілеглым баку.
7. На іспанскіх картах Паўночнай Амерыкі 16 стагоддзя некаторыя тэрыторыі назвалі “непатрэбнымі землямі”. Чаго там не было?
8. У міжнародным праве – носьбіт вярхоўнай улады.
9. Тэрмін, на працягу якога чалавек працуе або набывае спецыялізацыю.
10. Металічны або драўляны стрыжань з вастрыём на канцы, прызначаны для замацавання.
13. Рэальная або легендарная падзея, ад якой вядзецца летазлічэнне, а таксама адпаведная сістэма летазлічэння.
16. Населены пункт у Вілейскім раёне, у якім усталявалі сонечную электрастанцыю коштам 810 тысяч еўра.
17. Апавядальны род мастацкай літаратуры.
18. Памост для пакарання смерцю.
19. Рэжучы інструмент, зроблены на аснове трохкутніка Рэло, дазваляе зрабіць квадратную адтуліну.
21. Тулава, постаць чалавека.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

3. З гэтага матэрыялу быў зроблены шлем Геракла і ланцугі Праметэя.
4. Прадстаўнікі флоры, у гонар якіх у Вілейскім дзяржаўным каледжы зладзілі фэст у канцы верасня.
5. Мера даўжыні, роўная 2,54 см.
8. Аслабленне сіл, зморанасць ад цяжкай работы ці занятку.
9. Назва дэталяў рознага прызначэння, якія маюць цыліндрычную форму.
10. Пажыўны харчовы прадукт, белае крышталічнае рэчыва, салодкае на смак, якое вырабляецца з цукровых буракоў або цукровага трыснягу.
11. Пазней яго будуць называць “фернейскім старцам”. З ім быў асцярожны Людовік XV, Папа Бенядыкт XIV дасылае пахвальны ліст, а Кацярына ІІ уступае ў працяглую перапіску, а пасля яго смерці набывае ўсе арыгіналы твораў.
12. Штат ЗША, які называюць мядзвежым, кабаноў, горных крыніц, прыродным штатам, штатамцудам ці зямлёй магчымасцяў.
14. Гэты напітак з'явіўся на Каўказе. Мясцовыя называлі яго тым жа словам, што і мы, а ў перакладзе яно значыла “здароўе”. Расійскія дактары называлі яго “шыпучым малаком” і выкарыстоўвалі для лячэння малакроўя і страўнікава-кішачных захворванняў.
15. Сталіца Марока.
18. Спецыяліст для правядзення экспертызы па спрэчных ці няясных пытаннях.
19. Янка Купала: “Дум не … ланцугамі”.
20. Сфера паслуг, у якой французская мова з'яўляецца афіцыйна міжнароднай.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №40. Па гарызанталі.** 3. Алабама. 4. Жаба. 5. Жальба. 8. Чарка. 10. Кінгстан. 13. Жыцень. 14. Музей. 15. Гляк. 16. Банкаматы. 18. Рапарт. 19. Радок. 22. Жухлы. 24. Шах. **Па вертыкалі.** 1. Разьба. 2. Розга. 6. Сланы. 7. Рабіна. 9. Разгон. 11. Габелен. 12. Жменя. 16. Більярд. 17. Страча. 20. Распіл. 21. Кейстут. 23. Лепш.

## ГАРАСКОП 13-19 КАСТРЫЧНІКА



**АВЕН.** Сітуацыя ў вашым жыцці лёгка можа памяняцца як на вашу карысць, так і ў супрацьлеглы бок. Вы можаце аддацца на волю лёсу, але лепш разлічваць на самога сябе. Усё ў вашых руках, і калі праявіце намаганне над сабой, не кідаць пачатае на палове шляху, то вы можаце дабіцца добрых вынікаў.

**ЦЯЛЕЦ.** Калі ад вас запатрабуецца прыняцце важнага рашэння, то не бойцеся рызыкаваць – што б вы ні вырашылі, вынік будзе толькі на вашу карысць.

**БЛІЗНЯТЫ.** Старайцеся рабіць так, каб вашы дзеянні прыносілі карысць не толькі вам, але і навакольным людзям, прытым не толькі блізкім уласна вам. Такія ўчынкі не застануцца незаўважанымі, і дабрыня абавязкова вернецца вам у адказ.



**РАК.** Падзеі гэтых дзён могуць сур'ёзна паўплываць на ваша жыццё і па-рознаму праявіцца ў будучым. Дазвольце лёсу весці вас. Самі ж вядзіце сябе некалькі інфантыльна, захоўвайце лёгкасць. Не бойцеся, вы ўсім будзеце забяспечаныя, вас будуць акружаць спакой і раўнавага.



**ЛЕЎ.** Калі вы вырашылі, напрыклад, вывучаць штосьці новае, асвойваць новыя галіны дзейнасці, то настаў час. Вы атрымаеце эмацыйнае задавальненне, якое станоўча паўплывае і на іншыя сферы вашага жыцця.



**ДЗЕВА.** Вы цвёрда настроеныя палепшыць свой фінансавы стан. Што ж, усё ў вашых руках. Толькі вызначцеся, якая вам сума патрэбная і ў якія тэрміны вы яе хочаце зарабіць. Бо не маючы вызначаных межаў, вы можаце перастаміцца, і ў выніку атрыманыя грошы пойдуць не на жаданае, а на папраўку ўласнага здароўя.



**ШАЛІ.** Вучыцеся радавацца таму малому, што ёсць у вас, а то вы толькі звяртаеце ўвагу на тое, чаго ў вас няма. З-за гэтага і праблемы.



**СКАРПІЁН.** Рабіце тое, што лічыце патрэбным, цаніце тое, што маеце, не забывайце дапамагаць менш удачлівым.



**СТРАЛЕЦ.** Гэтыя дні як невялікі астравок актыўнасці, калі варта падумаць пра свае далейшыя планы на жыццё і, магчыма, распачаць нейкія дзеянні для іх рэалізацыі.



**КАЗЯРОГ.** Вам трэба часцей заставацца сам-насам, каб у цішыні і спакоі падумаць аб тым, чаго на самой справе вы хочаце, задумацца аб сваім жыцці, адмовіцца ад старых звычак. Не сумнявайцеся ў сваіх сілах, не бойцеся цяжкасцей. Магчыма, што блізкі чалавек паставіць вас перад выбарам: каханне ці кар'ера. І гэты выбар стане для вас вызначальным.



**ВАДАЛЕЙ.** Перыяд дзейнасці і новых пачынанняў, за выключэннем таго аспекту, што вы будзеце падвержаныя сумненням і знаходзіцца ў нерашучасці. У вас заўсёды было больш за адну думку па любым пытанні, на гэты раз сітуацыя іншая. Вам будзе не проста вырашыць, якім шляхам пайсці. У выбары пакладзіцеся на тых, з кім збіраецеся рухацца наперад.



**РЫБЫ.** Вы патрабавальныя да сябе і да іншых. Вашы адносіны да людзей не пакідаюць месца эмоцыям. Больш праяўляйце пачуцці. Прысвяціце пэўнай справе больш часу, зрабіце яе якасная і эфектыўнай. Інакш у ёй не будзе сэнсу.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 3 | | 2 | | | 6 | 5 |
| | | 9 | 3 | 1 | | | | |
| | | | | | 6 | | | 1 |
| 7 | | 1 | | | | | | |
| 8 | | 2 | 5 | | 3 | 1 | | 9 |
| | | | | | | 4 | | 8 |
| 2 | | | 4 | | | | | |
| | | | | 7 | 2 | 8 | | |
| 9 | 1 | | | 3 | | 2 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 14 кастрычніка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +9 / +8 | | +7 / +7 | | +12 / +12 | | +11 / +13 | |
| | 734 | → 6 | 740 | ↖ 1 | 741 | ↓ 6 | 742 | → 3 |
| Вільня | +7 / +8 | | +5 / +10 | | +10 / +13 | | +11 / +13 | |
| | 741 | → 9 | 745 | → 1 | 749 | → 6 | 749 | → 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 7.40
Захад 18.16
Даўжыня дня 10.36

Усход 1.54
Захад 16.34
Квадра 4




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

НАРАЧ

Мінімальная тэмпература -2,5 °С у 2016 годзе
Максімальная тэмпература +17,5 °С у 1978 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 37,3 мм у 2009 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Чым славілася Тупальшчынская малачарня? Усяго паўстагоддзя праіснавала прадпрыемства. Але і сёння, больш як праз 40 гадоў, старэйшыя жыхары жодзішкаўскай старонкі і выхадцы з тых мясцін добра памятаюць гісторыю Тупальшчынскай малачарні.



● КОНКУРС

## Дашлі фотаздымак – і атрымай лічбавую фотарамку ці іншыя падарункі

**Восень – час вучобы, ураджаю і... акцый ад "Рэгіянальнай газеты". Сёння мы запускаем акцыю "Не губляй ніводнага дня".**

Дасылайце на нашу пошту **regionnews@rh.by** свае лепшыя фотаздымкі, зробленыя за 2017 год. Падзяліцеся з рэдакцыяй і чытачамі радаснымі момантамі гэтага года.

Каб стаць пераможцам акцыі, неабходна даслаць адно фота ад аднаго чалавека. Мы размесцім іх для галасавання на сайце rh.by, і той, хто назбірае найбольшую колькасць галасоў, атрымае ў падарунак вялікі набор цукерак.

Акрамя таго, з дасланых фотаздымкаў калектыў рэдакцыі абярэ адзін, які размесцім на фірменным календары "РГ" на 2018 год. Той, хто даслаў здымак, які выбера рэдакцыя, атрымае ў падарунак лічбавую фотарамку.

Сярод фотаздымкаў, на якіх будзе прысутнічаць тэма "Рэгіянальнай газеты", рэдакцыя абярэ лепшы на яе погляд, а аўтара ўзнагародзіць наборам фірменных сувеніраў ад "Рэгіянальнай газеты". У далейшым гэтыя здымкі могуць быць выкарыстаныя ў нашых публікацыях.

Дасылаць здымкі могуць нашы чытачы ад сённяшняга дня да 1 лістапада. 6 лістапада мы размесцім на нашым сайце rh.by галасаванне. 13 лістапада абвесцім вынікі акцыі.

У лісце пазначце сваё імя, прозвішча, населены пункт, нумар тэлефона і некалькі сказаў пра сваё фота і сябе.

Большасць з дасланых фотаздымкаў мы размесцім і ў папяровай версіі газеты.

**"Рэгіянальная газета".**

## Пахваліся сваімі здольнасцямі і атрымай каштоўныя прызы

**"Рэгіянальная газета" пачынае конкурс "Супергаспадар".**

Калі ў руках усё спорыцца – чым гэта не падстава для гонару?

Вы сабралі самы вялікі ўраджай? Або пабудавалі ўнукам арэлі? Вышылі абрус або ўмееце пячы самыя смачныя ў свеце піражкі?

Зрабілі ўласнымі рукамі трактар? Або лепш за іншых умееце іграць на самаробнай дудцы? А можа шыеце абноўкі хамякам і коцікам? Ці сабралі багаты ўраджай грыбоў і нарабілі рэкордную колькасць закатак?

Тады раскажыце пра гэта.

Дасылайце на нашу пошту regionnews@rh.by свае лепшыя фотаздымкі. Падзяліцеся з рэдакцыяй і чытачамі тым, што выклікае ў вас пачуццё гонару, а ў суседзяў пачуццё добрай зайздрасці.

Каб стаць пераможцам акцыі, неабходна даслаць адно фота ад аднаго чалавека. Мы размесцім іх для галасавання на сайце rh.by, і той, хто назбірае найбольшую колькасць галасоў, атрымае ў падарунак садовыя арэлі. Таму, хто зойме другое і трэцяе месцы, мы падрыхтавалі ў падарунак наборы агародніка. А ўсе ўдзельнікі акцыі, незалежна ад вынікаў, атрымаюць у падарунак наборы насення як гародніны, так і кветак.

Дасылаць здымкі могуць нашы чытачы ад сённяшняга дня (13 кастрычніка) да 13 лістапада. Пасля мы размесцім на нашым сайце rh.by галасаванне, якое будзе доўжыцца ад 17 да 27 лістапада. А 1 снежня абвесцім вынікі акцыі на старонках газеты.

У лісце пазначце сваё імя, прозвішча, населены пункт, нумар тэлефона і некалькі сказаў пра сваё фота і сябе. Фотаздымкі, дасланыя без апісання, да ўдзелу дапускацца не будуць. У тэме ліста абавязкова пазначце "Супергаспадар".

Большасць з дасланых фотаздымкаў мы размесцім і ў папяровай версіі газеты.

**"Рэгіянальная газета".**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Ці памятаеце вы сваю выхавальніцу ў дзіцячым садку?

**Валеры Дзік, навучэнец, Вілейка:**
– Памятаю. Звалі Марына. Была вясёлая, добрая і прыгожая. Жартавала. А мы смяяліся з яе жартаў.



**Юлія Дуровіч, лагіст, Вілейка:**
– Хадзіла толькі ў старэйшую групу. Да гэтага часу гадавалася ў бабулі з дзядулем. Выхавальніцы былі дзве. І як у казцы: адна была добрая, а другая злосная. Добрую звалі Ала Іванаўна. А імя злоснай зусім не памятаю.



**Вадзім Саўчык, эканаміст, Маладзечна:**
– Маю выхавальніцу звалі Іна Фёдараўна. Яна была вельмі таленавітая жанчына: прыгожа малявала, сама рабіла для нас цацкі.



**Антаніна Галубовіч, педагог, Маладзечна:**
– Гэта было вельмі даўно, таму імёнаў не назаву. Памятаю толькі, што выхавальніца было сур'ёзная і строгая.



**Вікторыя Калачнік, прадавец, Вілейка:**
– А я ў садок не хадзіла. Дома гадавалася. Лічу, што гэта не самы горшы варыянт.



**Раман Кузьмін, ахоўнік, Маладзечна:**
– А мне маю выхавальніцу ніяк не забыць. Бо ў садку ў маёй групе працавала мая мама. Памятаю, яна нават патрабавала, каб у групе я яе называў Ірына Пятроўна. "У садку мам няма," – часта паўтарала яна.



**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№41 (1172) 13.10.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 964 . Падпісана ў друк у 9.00 12.10.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.
Тэл.: (80176) 53-78-04 (рэклама, факс), 53-78-05 (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), 53-78-06 (журналісты), (8029) 573-28-47, 676-84-20. E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.